ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН

# ЛІСТЫ ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ

вершы і паэмы

Мінск
«Кнігазбор»
2010

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б90

Мастак
Павел Татарнікаў

**Бураўкін, Г.**

Б90 Лісты да запатрабавання : вершы і паэмы / Генадзь Бураўкін. — Мінск : Кнігазбор, 2010. — 336 с.
ISBN 978-985-6930-87-7.

Новая кніга паэзіі Генадзя Бураўкіна напісана ўжо ў XXI стагоддзі. Яе склалі паэмы «Узнясенне» і «Развітанне», прысвечаныя апосталам Бацькаўшчыны Францішку Багушэвічу і Якубу Коласу, а таксама лірычныя вершы, прасякнутыя балючымі клопатамі нашых дзён, асветленыя сыноўскай любоўю да роднай зямлі і прадыктаваныя ўзвышаным пачуццём чыстага кахання. Як заўсёды ў аўтара, яны гранічна спавядальныя і ўсхваляваныя.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-6930-87-7**



Я кожны дзень складаю лісты —
Матулі,
Сябрам,
Унукам,
А яшчэ —
Дзяцінству, якое ўжо не вернецца,
І старасці, ад якой не ўцячэш,
Бярозцы пад маім акном,
Жураўлю ў асеннім небе,
Ручаю каля прыдарожнага гаю
І Сафійцы ў Полацку...

Я іх шапчу
Халаднаватымі вясновымі ранкамі,
Спякотнымі летнімі днямі,
Завейнымі зімнімі вечарамі
І аддаю
Лёгкай хмурынцы ў небе,
Цёпламу дожджыку-грыбасею,
Лагоднаму баравому ветру.

Некаторыя ж я запісваю
І называю іх
(Можа, залішне самаўпэўнена?)
Вершамі.
Іх я пакідаю
Да запатрабавання,
Тайна спадзеючыся,

Што аднойчы іх захочуць прачытаць
Ці то мае дарослыя ўнукі,
Ці то мая зялёная бярозка,
Ці то мой журавель,
Які прыляціць з выраю...



Што яно — жыццё?
Не першы раз
Я шукаю для сябе адказ.
А яго няма, няма, няма,
Ці то ў свеце лета, ці зіма,
Ці то ў хаце радасць, ці бяда,
Ці гарэлка ў шклянцы, ці вада.

Гэтак фармулюй яго ці так,
Сэнс не праясняецца, аднак.
Перапоўнілі ўспамінаў мех
Слодыч і гаркота,
Смех і грэх.

Ці трасі ты мех той, ці круці —
Ўсё перамяшалася ў жыцці.

Толькі што на сэрцы змрок гусцеў,
А ўжо дзень прагнаў трывогі цень
І на вусны,
Дзе быў прысмак слёз,
Кроплю мёду цёплы дожджык строс.

Ну ніяк,
Зусім не напаказ,
Не прыходзіць да мяне адказ.
А жыццё між тым усё цячэ...

Я гатовы пачакаць яшчэ...



Па родным краі колькі ні кружы, —
Стаяць
Каля дарог многагалосых
Крыжы і дрэвы,
Дрэвы і крыжы,
Як верставыя знакі нашых лёсаў.

Яны суладна цягнуцца на ўзгрэў
Ад засені
І палыноў прагорклых.
І менее з гадамі
Стромкіх дрэў,
І более
Старых крыжоў
На ўзгорках.

Яны маўчаць няўцешна на вятрах,
Аплакваюць дажджамі нашы страты
І пад высокім небам
Значаць шлях
Да вечнасці
І да бацькоўскай хаты.

І на сваім апошнім рубяжы
Ты іх угледзіш,
Толькі азірніся —
Крыжы і дрэвы,
Дрэвы і крыжы,
І зоркамі засеяныя высі...



Калі з табой побач
Бясконцы клубок
Нахабна размотвае зло,
Ніколі не шыйся спалохана ўбок,
Не цешся,
Што вось пранясло.

І хай за табою цікуюць сычы
У змрочным, здзічэлым бары,
Пакуль цябе слухаюць —
Не маўчы,
Пакуль цябе чуюць яшчэ —
Гавары!

У сэрцы прыглушаны гнеў не збірай,
Не думай пра мяккі пірог,
Бо што нас чакае —
Ці пекла,
Ці рай, —
Адзін толькі ведае Бог.

Угледзь і ў глухой, непрагляднай начы
Прымроены водбліск зары...
Пакуль цябе слухаюць —
Не маўчы,
Пакуль цябе чуюць яшчэ —
Гавары!..



Горка ўспамінаючы нягоды,
Судзячы глухую даўніну,
Як жа нам не хочацца
Заўсёды
На сябе прымаць усю віну!

Сцішваючы скрушнае рыданне,
Боль свой разбаўляючы ў віне,
Мы сабе шукаем апраўданне
На чужой, нялюбай старане.

У душы пануюць невылазна —
Колькі іх сабе не выбачай —
Раўнадушны смех старога блазна
І бяссільны малады адчай.

І ўзыходзіць на лугах наступства
Забыцця калючая трава...
Нам пакорнасць нашую і глупства
Бог ужо стаміўся даравацьь...



Каб не збіўся ты з дарогі,
І табе запомніць трэба:
Не глядзі ўвесь час пад ногі,
Пазірай зрэдчас на неба.

У хадзе тваёй бясконцай
На бязлюдным раздарожжы
Шлях падкажа толькі сонца,
Што з-за хмар зірне трывожна.

І дарадца твой адзіны —
Не маўклівыя пагоркі,
Не туманныя нізіны,
А задумлівыя зоркі...

Мудрасць досведу старога
Не была нікому лішняй.
Недарма яе ў дарогу
І табе дае Ўсявышні.



Думку сваю ў людзі адпусці —
Што яна гняце цябе, цяжкая?
Хай сабе паходзіць па жыцці
І спагады шчырай пашукае.

Не трымай яе на дне душы,
Як халодны, непадатны камень.
Адагрэй яе,
Разварушы,
Падштурхні нясмелымі рукамі.

Хай яна пасмягне на жніве,
У сіроцкай хаце паначуе
І хоць трохі разам пажыве
З тымі,
Хто даўно цябе не чуе.

А пасля на покуць пасадзі
І спакойна пагадзіся з ёю,
Што ты гэткі ў свеце не адзін
З крыўдаю і скрухаю сваёю...



Калі жыццё нялёгкае пражыта,
Ці варта ўспамінаць пра драбязу?
Калі і згадваць што —
Дык лес і жыта,
Каханай смех і матчыну слязу.
І ранішнюю травеньскую знічку,
І жураўліны крык у сіняве,
І тую булькатлівую крынічку,
Што сто разоў цябе пераражыве...

Аціхнуць крыўды.
Змізарнеюць страты.
Развеецца расчараванняў дым.
І наш пракляты, родны век дваццаты
Для ўнукаў стане казачным былым.

Асенні роздум супакоіць сэрца.
Апалы ліст схаваецца ў траве.
І вечнае з табою застанецца,
А ўсё пустое з памяці сплыве...



Як пройдзеш сталасці рубеж,
Дык папытайся строга,
Ці тою справаю жывеш,
Ці той ідзеш дарогай.

Ці элін ты,
Ці іудзей,
Ці з горада,
Ці з вёскі,
Будзь чалавекам між людзей,
Жыві законам Боскім
І ні ўшчуванняў школьных дам,
Ні самадурства боса,
Ні нават Страшнага Суда
Ніколечкі не бойся.



Зайздроснікі і злоснікі зазвычай
Мяне і папракалі,
І клялі
За шчырасць,
І характар ваяўнічы,
І боль ад крыўдаў матчынай зямлі.

Хаця мяне і ведалі даволі,
Ніяк даўмецца не маглі яны,
Чаму ніколі я не ўмеў дазволіць
Нахабства,
Падхалімства
І маны.

З такім запалам мне пад дых лупілі,
Аж да крыві збівалі кулакі,
І спадцішка бязлітасна ляпілі
Ганебныя,
Дурныя ярлыкі.

А я шукаў
Разважлівасць і згоду,
Прыцішваў свой неўтаймаваны гнеў
І спакайнеў,
Здаецца,
Год ад году,
І да абвінавальцаў лагаднеў.

Я марыў жыць
Сумленнай талакою,
Не раздзімаць варожасці агні.
Я так хацеў
Даверу і спакою.
Ды ўслед мне
Зноў кідаюць камяні.

І калі ўрэшце на сцяжынцы вузкай
Адчую і пачую я: «Пара!»,
Я адыду
З усмешкаю на вуснах,
Усім
Як ёсць
Жадаючы дабра...



Колькі помню сябе малога,
Ратаваўся я і дурэў
Пад калючай аховай глогу
І ў паўдзённай засені дрэў.

І не толькі дроў для апала
З лесу блізкага —
Шмат гадоў
Мне для гульняў маіх хапала
Спелых шышак
І жалудоў.

Лес вучыў ваўкоў не баяцца,
Зашывацца пад лапы хвой,
Дзе са мной дзяліліся зайцы
Кіславатай капустай сваёй.

Ён мяне на палянах ажынных
Саграваў у асенні час
І дзяліўся даверам сцяжынак,
Што праклалі задоўга да нас...

І я ўдзячны за ўсё
Прагрэсу,
І настаўнікам,
І бацькам,
А яшчэ —
Наддзвінскаму лесу,
Меднастволым яго саснякам.



Адключыў тэлевізар.
Выключыў радыё.
Выкінуў на сметнік газеты.
І ажно захлынуўся
Ад цішыні і разняволенасці.

Слухаю перашэпты асенніх клёнаў.
Пераміргваюся з вячэрнімі зоркамі.
Ляжу сабе на канапе,
Успамінаю дзяцінства
І разважаю аб вечнасці жыцця.
А яшчэ я магу ўзяць з паліцы томік Купалы
І чытаць,
Напаўняючыся асалодай і здзіўленнем.
І магу гуляць з унукам
Ці напісаць нарэшце лісты сябрам
У Варшаву і Прагу...

Божа,
Як гэта здорава,
Калі з экрана на цябе не кідаюцца з нажом
і пісталетам,
Калі радыё
Не аглушае цябе
Віскам моднай безгалосай пяюхі,
А газеты
Не агітуюць цябе за чарговага выратавальніка
нацыі!..

Як гэта, аказваецца, добра —
Быць проста дзедам,
Гаспадаром у сваёй хаце,
Мужам мілай заклапочанай жонкі,
Яшчэ зусім не старым чалавекам,
Які можа сабе дазволіць
Доўга глядзець услед смяшлівым даўганогім
дзяўчаткам!..

І так мінае дзень, другі.
Спакайнее свет,
Суседзі робяцца лагаднейшымі,
А вецер — ласкавейшым,
Вечары не псуюць настрою,
І ўспамінаюцца даўнія, амаль забытыя песні...

Але ўжо нешта
Зусім няўлоўнае
Крадзецца тайна ў душу,
Няўклюдна варушыцца там
І нясмела пачынае падаваць голас,
Як птушанятка,
Што выкулілася з гнязда
На мяккую траву
І вельмі хоча назад,
Пад калючы, шумлівы вецер,
Бліжэй да бялёсых аблокаў
І зыркага сонца...

І я не зразумеў спачатку,
Куды паступова знікае ўзрушэнне,
Чаму затуманьваецца радасць,
Чаго не хапае мне ў гэтай задушлівай,
засяроджанай цішыні.

Гэта гняце мяне,
Раздражняе,
Робіцца нудным пакутай...
Пакуль
Не ўключаю тэлевізар,
Не лаўлю знаёмую радыёстанцыю,
Не бяру ў рукі стос свежых газет...

Ну вось —
Я зноў у вар'яцкім, праклятым,
Прывычным свеце,
З якога амаль вырваўся...



Было:
Паэзія збірала стадыёны.
Цяпер прыйшлі інакшыя часы —
Тут прадаюць
Скуранкі
І дыёды,
Ралеты,
Кастаньеты,
Паясы.

І там,
Дзе барды надрывалі глоткі,
Дзе звонка струны рваліся ў гітар,
Ляжаць
З Кітаю звезеныя шмоткі
І ў туркаў перакуплены тавар.

Няма больш
Ні паэзіі,
Ні спорту.
Затое,
Як на танным кірмашы —
Купальнікі,
Духі,
Талеркі,
Шорты,
Будзільнікі,

Свяцільнікі,
Нажы...

Няўжо былое назаўжды прапала?
Але зірні —
На модных рукзаках
Сядзіць дзяўчына з томікам Купалы
І лугавымі кветкамі ў руках.

Каля прымоўклай чашы стадыёна
Яна адна.
І ўсё ж я разглядзеў
У маладых вачах яе замглёных
На заўтра неўсвядомлены спадзеў.



Калі раз’юшана зямная ка́ра чыніцца
І вычарпаны сіл слабы запас,
Успамінаюць Бога
І злачынцы,
І праведнікі ў свой смяротны час.

Ніхто ўжо не падсцеле ім салому.
І клікаць цуд на выручку дарма...
Любому
Ясна робіцца
Самому,
Што паратунку насамрэч няма.

Якраз тады,
У міг апошні самы,
Ва ўсіх
Душа выдыхвае сама
І развітальны крык ахрыплы:
«Мама!»,
І Бога паўзабытае імя...



Хоць няма ў іх красы маляванай
І цыганістага куражу,
Па-ранейшаму
Замілавана
На сяброў сваіх даўніх гляджу.

Як няўдалыя паляўнічыя,
Мы не рвёмся ў гушчар напралом
І багатых трафеяў не лічым
За бяседным мужчынскім сталом.

Не зайздросцім суседскім палацам,
Да кармушкі ў чарзе не стаім,
Хоць душой захмялелаю плачам
Над капрызлівым лёсам сваім.

Пазіраем наўкол з недаўменнем,
Ні на кога не точым нажы.
І напэўна,
Мы проста не ўмеем
Па законах сягонняшніх жыць...



Мне голас быў...
*Г. Ахматава*

Мне голас быў
Аднекуль з паднябесся
Ці, можа, з-за высокіх курганоў —
Анёл трубіў,
Ці дуб шумеў на ўзлессі,
Ці далятала водгулле званоў...

Мне голас быў.
І я пачуў яго.
І ён узняў мяне да зор нібыта,
Спавіты ціхай незямной тугой,
Таемны і знаёмы,
Як малітва.

Як стомленая песня на жніве,
Як самы першы жаўранак вясновы,
Мне голас быў.
І ён са мной жыве.
І шэпча мне свае скупыя словы...



Так многа намі страчана,
Загублена,
Збаёдана!
Цішэюць песні матчыны,
Мялеюць рэчкі родныя.

Над векавымі пушчамі
Навіс хіжак з сякераю...
Ну колькі нам адпушчана?
Ну колькі нам адмерана?

Няўжо з атарай зводнаю
Ісці ў нябыт мы радыя,
Бязмоўныя,
Бязродныя,
Авечкі талерантныя?

Няўжо з глухой пакораю
Так лёгка ў нас загіне ўсё,
Пакінуўшы гісторыі
Радок у кнізе Гінеса?..



Выток.
Куток.
Уток...
Якія словы наскія!
Крыві крывіцкай ток
Іх абмывае ласкаю.

Рака жыцця нясе
Іх праз дажджы і замеці.
Ну што ж,
Калі не ўсе
Іх захавалі ў памяці!..

Калі бацькоўскі край
Прыгорбіцца магіламі,
Ты іх не дакарай
І не лічы аджылымі.

Гаротнаю парой,
Як прыйдзе ў дом бясхлебіца,
Яны,
Нібы пароль,
Яшчэ табе спатрэбяцца.

Пакліча на парог,
Дзе столькі паражытага,
Няхай і не пірог,
А бохан хлеба жытняга.

Там,
Як вады глыток
З духмянай хатняй лустаю,
Выток,
Куток,
Уток —
Тры словы беларускія...



У зорак мільгаценні,
У шэрані начной
Загадкавыя цені
Вітаюцца са мной.

Адтуль,
Дзе коўдрай белай
Зіма накрыла рунь,
Рукою аслабелай
Махае мне Гарун.

Мяне ён згледзець хоча,
Здалёк бяжыць наспех,
Ды засцілае вочы
Яму сібірскі снег.

І за спіной —
Астрогі,
Чужых сцяжын сіло.
На Беларусь дарогі
Завеяй замяло.

А вецер,
Як на ліха,
Узняў снягоў бурун.
І нешта шэпча ціха
Знясілены Гарун.

І цягне, цягне рукі,
І рвецца зноў і зноў
З нявольніцкай разлукі,
З жалезных кайданоў...

Завея плача горка
Каля халодных сцен.
І патухае зорка.
І прападае цень.

Пад шэрым небам
Глуха
У соннай немаце
Сівая завіруха
Мяце,
Мяце,
Мяце...



Мы некалі шукалі новых тэм
У прывідным і неспазнаным свеце,
Сярод чужых галактык і сістэм,
Дзе зорны пыл мяце касмічны вецер.

Мы шчыра спадзяваліся адкрыць
Яшчэ не разгаданыя сакрэты.
Але ці то нам не хапіла крыл,
Ці то маршруты зблыталі ракеты.

Спусціліся мы на сваю зямлю,
Пакінуўшы чужы халодны космас,
І як наноў убачылі раллю,
Каханых нашых залатыя косы,
Адкрылі дома
Казачны Эдэм,
Дзе ў чыстым небе ярка свеціць ветах,
І адшукалі раптам
Сотні тэм,
Яшчэ нікім дагэтуль не апетых...



Атруцілі ластавак даўно,
Разагналі іхні род крылаты.
Гнёзд не лепяць над маім вакном
І вясной не ўюцца каля хаты.

Так мне вас пад вечар не стае
Пасля дзённай клопатнай задухі,
Госці белагрудыя мае,
Звонкія пявунні-шчабятухі.

Над страхой высокай,
Над галлём
Вы, бывала, весела віліся,
Трапяткім, завостраным крылом
Крэслілі засмужаныя высі.

А цяпер —
Я ў родны кут прыйшоў
І сумую ўсё пасля вяртання
Як без вашых смелых віражоў,
Так і без картавага вітання.

Ці чужы застрэшак вас прыгрэў,
Ці раптоўна стала харчу мала,
Ці старая крыўда на прагрэс
Вас далёка недзе затрымала?

Некалі рассудзіць мудры час,
Хто ў разлуцы нашай вінаваты.

Толькі мне здаецца,
Што без вас
Як асірацелі нашы хаты...



Хоць затокі зацягнула цінай,
А віры засыпала пяском,
Цягне зноўку на раку дзяцінства
Выправіцца з вудай праміком.

Будзе лотаць каля плёсаў плаваць,
Будуць сонца засціць лазнякі.
Маладая ўчэпістая памяць
Панясе далёка паплаўкі.

Я ва ўдачу хітрую не веру —
Абміну бадылле і лазу,
Выцягну зялёны пук аеру
І, нібы ў маленстве, пагрызу.

А пасля на беразе прылягу,
Не адвёўшы метлюшок ад шчок,
Покуль за счарнелую карагу
Зачапіўся пад вярбой кручок.

Беражна рукой прымну траву я,
Каб пабачыць зноў ва ўсёй красе,
Як мая рака ваду жывую
Ціха, разняволена нясе.

І вярнуся позняю парою
З лёгкаю і светлаю журбой
Даўняю сцяжынкай палявою,
Вудачку забыўшы пад вярбой...



Блукаю ў незнаёмым лесе,
Разблытваю сцяжын вузлы...
А ўжо цямнее паднябессе
І падпаўзае вецер злы.

І я спыняюся ў адчаі,
Даю на міг спачын нагам —
І нечакана прыкмячаю
Наперадзе,
Між дрэў,
Прагал.

Хоць хату я яшчэ не бачу,
Але ўжо чую —
Ад яе
Звяглівы малады сабачка
Свой звонкі голас падае.

Як успамін аб прамінулым
І спадзяванне на цяпло,
Дымком ядлоўцавым дыхнула
Чужое блізкае жытло.

І я ўжо ўпэўнена шыбую
Праз засцярогу і спалох,
Нясу сваю душу жывую
На невядомы мне парог...



Адпачні душою, адпачні
Ад Афганістана і Чачні,
Ад малітваў хцівых святароў,
Ад пустых прамоў правадыроў,
Ад парад няпрошаных гасцей
І ад страху за жыццё дзяцей.

Адпачні хоць трохі, адпачні.
Памаўчы ў вячэрняй цішыні,
Пахадзі ля ўзлескаў і яроў,
Пасядзі ля плёсаў і віроў.

Хай шумяць лісты, цячэ вада...
Недзе там, за сотні вёрст — бяда.
Недзе там — і смерць, і кроў, і жах —
На чужых далёкіх рубяжах...

Толькі дзе тут, як тут адпачнеш? —
Для душы няма на свеце меж...



Калі мне было нядобра,
Мяне суцяшалі:
«Пройдзе!»

І праўда:
Міналі дні —
І адступаўся кашаль,
І сціхаў занудлівы дождж,
І сябры прыходзілі мірыцца,
І прыносілі ўрэшце пенсію...

А чаго ж ніяк не праходзяць
Пошасць бяспамяцтва,
Чорная зайздрасць,
Воспа дзяржаўнага хамства
І кароста хлусні?

Чаму ніяк не праходзіць
Людское вар'яцтва,
Калі брат забівае з-за грошай брата,
А з-за трона народ прадаюць у рабства,
І каханнем гандлююць, як цыгарэтамі,
І ў бутэльцы топяць сумленне,
І адракаюцца ад дзяцей?..

Калі ж яны пройдуць —
Галеча і здрада,

Жорсткасць і беззаконне,
Абыякавасць і несправядлівасць?..

Столькі гадоў чакаю!
А ўсё дарэмна...

Можа, век мой кароткі
І дачакацца не паспею...



Я да стомы хачу нахадзіцца па роднаму краю,
Наглытацца халоднага ветру і дыму кастроў.
Для сябе і для свету я тайны жыцця адкрываю
І па жылах ганю застаялую сонную кроў.

Я шчаслiва малюся крывіцкаму мудраму Богу,
Што ён прашчураў тут,
Між азёр і лясоў,
Пасяліў,
І ў душу не ўдыхнуў ім нічога благога і злога,
І жытнёваю цішай акрыў ніў асенні разліў.

Я з высокіх курганаў углядаюся ў Полацк
і Крэва
І ўтрапёна дзіўлюся на ўзгорках Міра і Іллі,
Як на роднай зямлі мкнуцца ўверх і зламаныя
дрэвы
І абвялыя кветкі зацвітаюць на роднай зямлі.

Спавядаюся небу
На ўсіх бальшаках і сцяжынках
І прашу,
Каб не выбіла градам ніводзін пасеў,
Каб унукі мае
На гуканнях вясны і дажынках
Тыя ж песні спявалі,
Што я даспяваць не паспеў.



Калі пражытыя гады
Збяром усе да кучы мы,
Дык, можа, ўбачым:
Сапраўды
Мы добра надакучылі
Бярозам тым,
Што каля нас
Паспелі ўжо састарыцца,
І тым сарокам,
Што з-за нас
Ужо даўно не сварацца,
І сцежкам тым,
Што столькі год
Тапталі ўдзень і ўвечары,
І зоркам,
Што ў часы нягод
Надзеі нам падсвечвалі,
І рэчцы той,
Што пад гарой
Булькоча заклапочана,
І песні,
Сумнай і старой,
Што так і не закончана,
І храму,
Што ўцалеў ад куль
І ўзнёсся ўвысь над кручаю...

Ну а вось мне
Дык і дасюль
Жыццё не надакучыла...



Жнівеньскаю цёплаю часінай
Я люблю спыніцца ля ракі,
Калі ўспыхнуць над смугою сіняй
Мігаткіх сузор'яў светлякі.

Галаву да зорак задзіраю,
Срэбны след шукаю ў вышыні,
Нібы ў рай без спросу зазіраю
У зямной бязлюднай цішыні.

Веташок над даляглядам вісне.
Ні машын, ні крокаў не чутно.
І здаецца —
Там, у зорнай высі,
Тчэцца нашай долі палатно.

Я пад гэтым дзівам заціхаю
І душой шчасліваю лаўлю
Вечнасці спакойнае дыханне,
Што сыходзіць з неба на зямлю...



Няўжо ёсць вежа са слановай косці,
Куды не прыйдуць ні сябры, ні госці,
Дзе можна ад усіх схавацца часам
І толькі з небам гаварыць сам-насам?

Няўжо — на зайздрасць здзіўленым
сталіцам —
У ёй надоўга можна пасяліцца,
Каб уцячы ад войнаў і парадаў
І жыць у згодзе з воляю і праўдай?

Няўжо і мне аднойчы прэзентуе
Хто-небудзь вежу казачную тую
І я змагу схавацца назаўсёды
У добры свет спакою і лагоды?..

Дык дзе ж ты,
Вежа са лановай косці,
Дзіцячы сон
Без подласці і злосці?
Твой прывід ціха ў сэрцы дагарае...

Няма сланоў у нашым родным краі...



Зноў нас лёс бязлітасна дратуе,
Сыпле нам нягоды,
Як з мяшка.
Зноў гадаем,
Хто ж нас уратуе,
Выцягне з бяды чыя рука.

Дзе той добры пан —
За акіянам,
Ці ў суседнім царстве,
Ля дзяжы,
Ці зваліўся п'яны пад парканам,
Так і не дайшоўшы да мяжы?

Што нас —
Памяркоўнасць збіла з тропу,
Засмактала хцівасці дрыгва?..
Уздыхае сытая Еўропа.
Моршчыцца імперская Масква.

Вось і ў іх канчаецца трыванне.
А ў душы не менее трывог...
Пэўна, ў нас адно выратаванне —
Калі толькі дапаможа Бог...

## Баль Сатаны

Вы бачылі,
Як ладзіў Сатана
Свой шумны баль,
Як ён увесь свяціўся
Не ад авацый
І не ад віна —
Ад нехаванай радасці нарцыса?

Ён перамог.
Ён выйграў трудны бой.
Ён даказаў зямное права сілы...
Няхай анёлы
Сумнаю гурмой
Глядзяць здалёку,
Апусціўшы крылы.

Хай слухаюць яны
Царкоўны звон
І святароў расчуленыя словы,
Якія ўжо,
Калі захоча ён,
І Богам аб’явіць яго гатовы.

Ён крыва пасміхаўся незнарок,
Нібыта тлуму гэтаму не рады,
Хоць і яму ўжо засцілала зрок
Крутая неспатоленасць улады.

Ён волю даў
Усёй сваёй гайні —
У пінжаках,
Сурдутах
І пагонах,
Бо добра ведаў:
Пальцам варухні —
І прыпаўзуць яны
Да ног ягоных.

Ён быў адзін,
Як кінуты ў турму.
І думаў не аб славе,
Не аб нацыі —
Аб незайздроснай долі,
Што яму
Няма з кім тут
Ні выпіць,
Ні абняцца...



Знікае «маўр»,
Сваю зрабіўшы справу,
Як быццам бы яго і не было.
І акуляры з залатой аправай
Ужо не сеюць чорнае святло.

Яго дыктатар выкінуў на звалку.
Ён іншага наблізіў да сябе.
На ўсіх на свеце раззлаваны змалку,
Ён і яго бязлітасна заб’е.

А той,
Былы,
Служыў з такім імпэтам,
Так выгінаўся перад ім заўжды,
Што ім дзяцей палохалі паэты
І пракліналі ўпотайкі жыды.

Ах, як ён быў яму ва ўсім адданы,
Бяздушны, безразважлівы круп’е!
Цяпер пакуе моўчкі чамаданы
Ці сам з сабою непрабудна п’е.

Аплаквае падманутыя мары,
Наіўную бязглуздзіцу вярзе...

А каля трона
Маладыя «маўры»
Стаяць ужо ў задыханай чарзе...



Хрыпнуць палітыкі,
Не паспяваюць аддыхвацца журналісты,
Папярэджваючы,
Раячы,
Паграджаючы:
«Будзьце пільныя!
Вакол ворагі —
За спіною,
За вуглом,
За мяжою,
За акіянам.
Аберагайце
Свае сакрэты,
Сваё багацце,
Сваіх начальнікаў!..»

Слухаю гэткае кожны дзень —
І міжволі пачынаю трывожыцца:
А што,
Калі і да мяне
Крадзецца нейкі бязлітасны вораг?
Хаця
Што ў мяне за сакрэты —
Пенсія,
Якой хапае толькі на хлеб і лекі,
Вясёлае свавольства ўнукаў,
Пісьмы самотных сяброў?..

Ну а багацце?
Так, яно ёсць:
Паліцы разумных кніжак.
Толькі каму яны патрэбныя
Не тое што за акіянам,
А нават у кабінетах мясцовых начальнікаў,
Бо ўсе ж яны —
Па-беларуску?..
Аберагаць начальства?
Навошта?
Яно ад мяне так далёка,
І нічога добрага мне не зрабіла,
І, здаецца, проста не любіць мяне...

Так што няма ніякіх падстаў для трывогі.
А вось жа
Сядаю ў трамвай
І пачынаю па баках азірацца:
Дзе тут мой замаскаваны вораг?
Гэтая цётка,
Што над клункамі дрэмле?
Гэты хлопец,
Што чытае замусолены дэтэктыў?
Гэты міліцыянт,
Што абыякава пазірае ў вакно?
Ці, можа, кіроўца шыкоўнай машыны,
Што імкліва праімчаўся па вуліцы?..

І на мяне, здаецца, той-сёй паглядвае скоса,
Можа, думае,
Што я — дыверсант, закінуты з-за акіяна,
Або вопытны злодзей,
Што цікуе за кашалькамі,
Ці хітры чыноўнік,
Які з кожнага патрабуе хабар?..

Прывярзецца ж такое!

Я ўсміхнуўся збянтэжана.
І — о, Божа —
У адказ мне ўсміхнуліся
Заклапочаная цётка,
Цыбаты хлопец,
Кіроўца шыкоўнай машыны
І нават суровы міліцыянт.
Значыць,
Яны, як і я,
Хочуць шукаць сяброў —
За спіной,
За вуглом,
За мяжою,
За акіянам.
Значыць,
Няпраўда,
Што ворагі —
Вакол нас...

І весела пагрукатаў трамвай
Каля важных офісаў,
Каля крамаў,
Каля рэдакцый,
Каля дзіцячых садкоў,
Перапоўнены
Згодай,
Даверлівасцю
І спакоем...



Як чужою красою ні цешся,
Як далёка свой шлях ні масці,
Прывядзе незабытая сцежка
Хоць аднойчы да родных мясцін.

Пойдзеш ты,
Абмінаючы лозы,
Да лагчыны,
Дзе свеціцца плёс.
Дождж скупы,
Як мужчынскія слёзы,
Праліецца знячэўку з нябёс.

Сціхне вецер
За сцежкаю вузкай,
Пыл саб’е з неприкметных слядоў.
І астудзяць засмяглыя вусны
Кроплі даўніх хлапечых гадоў.

І аблокі,
Як светлыя плямы,
Паплывуць па люстранай вадзе.
І яшчэ непазбытая памяць
У душу ціхі сум прывядзе...



Здаецца, нячутна сплываюць вякі,
А лес не старэе,
Мажны і высокі.
І дзяцел усё забівае цвікі.
І ўсё мітусяцца крыклівыя сойкі.

Ім ёсць што прыпомніць на гэтай зямлі —
Як падалі з хвой пад маланкамі совы,
Як іх калыхалі на гнуткім галлі
То лютаўскі сівер,
То вецер вясновы.

Дубы засланялі ў дажджы і ў мароз
Шумлівы падлесак,
Густы і зялёны.
Ах, як ён імкліва і ўчэпіста рос,
Да самых аблокаў ускінуўшы кроны!..

А мы пастарэлі.
І ў прыцемку дзён,
Гартаючы ў памяці леты і зімы,
І дрэвам, і птушкам прыносім паклон
За тое,
Як добра было разам з імі...



Заўсёды сябруйце з зямлёю,
Туліце яе да грудзей.
Яна адбірае ўсё злое
У птушак,
Звяроў
І людзей.

І ўсім
Бескарысліва дорыць,
Забыўшы старыя грахі,
У шатах зялёных прасторы
І ў ранішніх росах шляхі.

А здарыцца гора якое,
Яна спагадае ў бядзе,
Накорміць цябе і напоіць
І спаць на мурог пакладзе.

Пад ціхім асмужаным небам
Адчуеш і ты ўпершыню,
Як ласкаю дыхае глеба,
Як луг аддае цеплыню.

Калі табе нават зямеля
Не зможа ні ў чым памагчы,
Яна і тады зразумее
І разам з табой памаўчыць...



Курлычуць жураўы над голай нівай.
Да сонца павуцінка паплыла.
І сам я —
Частка восені журлівай,
Хмурынка ля бусловага крыла.

І для мяне гаі адшапацелі
І адцвілі рамонкі між атаў.
Свой горкі дым касцёр асірацелы
Па жоўтаму іржышчу распластаў.

Я ў невядомы край не адлятаю,
Але нуды пазбыцца не магу.
Мне намятае
Замець залатая
На сэрца палыновую тугу...

# Узнясенне

*Паэма*

## I

У пакой заплываў вечаровы зацішак.
І спаўзала ружовасць з непаголеных шчок...
Паміраў адвакат Багушэвіч Францішак.
Адыходзіў у вечнасць Мацей Бурачок.

За вакном нехта дуў у ахрыплую дудку,
Абжывалі старую шпакоўню шпакі.
А пад самаю століл
У дальнім закутку
Веснавую мярэжу плялі павукі.

Заляцела знячэўку малая багоўка
І паўзла па бялюткай, як снег, прасціне.
Ён руку аслабелую ўскінуў нялоўка —
І не стала багоўкі:
Была тут ці не?

На сцяне расплываліся цьмяныя цені,
Варушыліся,
Чэзлі,
Знікалі з вачэй —
Ці то сны,
Ці то прывіды,
Ці летуценні,

Ці ўспаміны,
Ці здані забытых начэй...

І рабілася лёгкім збалелае цела,
І з душы ападала трывог мішура.
«Адляцела багоўка мая,
Адляцела.
Вось і мне ўслед за ёю да Бога пара...»

Што там —
Стукаюць кроплі па запыленай шыбе
Ці то б’юцца чмялі аб халоднае шкло?..
Нібы ў памяці вечнай на бязлітаснай дыбе,
Зноў прыгадваў ён тое,
Што было і прайшло.

Не складаў падрабязны і доўгі рахунак,
Не падлічваў
Ні слёз,
Ні паўстанцкіх дарог.
Проста клаў у апошні, паломніцкі клунак
Тое,
Што пакідаць не хацеў і не мог.

Да сцяны павярнуўся абяскроўленым тварам,
Лёг на левы,
Змярцвелы і высахлы,
Бок.
І, нібы на судзе,
Перад боскаю карай,
Раскруціў свайго лёсу станчэлы клубок...

II

...Знята перад ворагам забрала.
Прагай волі закіпала кроў...
Пушча іх тады ў атрад сабрала,
Маладых хлапцоў каля кастроў.

Што яны адваяваць хацелі,
Толкам не паселі зразумець.
Леглі ў апраметныя пасцелі,
Стросшы з клёнаў восеньскую медзь.

Нездарма ў зямным штодзённым пекле
Сніўся ім высокіх дум палёт...
Іх пасля чужыя шаблі секлі,
Прабівалі кулі навылёт.

А пакуль —
За Нёмнам даль сінее,
Тлее ўсход палоскаю слабой.
І спяваюць ціха касінеры
Перад тым,
Як выправіцца ў бой.

«Зялёнае арэхаўе цераз тын перавісла.
Што з-пад таго арэхаўя бяжыць сівы конік.
Што на тым коніку Яначка з вайны едзе.
Яго мамка пераймае і ў яго пытае:
"Янчка, дзіцятка, ці не адзін з вайны едзеш?"
"Я не адзін з вайны еду:

Гасподзь Бог — нада мной,
Сівы конь — пада мной,
Уся дружынка — за мной...”»

Адплываюць зоркі ўслед за поўняй.
Дагарае вогнішча ў цішы...
Пабрацімаў добра ён запомніў,
Захаваў на самым дне душы.

Можа, лес,
А можа, Нёмна хвалі
Між карчоў
Або ў глыбі віроў
Раніцой навекі пахавалі
Безыменных русых ваяроў.

Іх тады знячэўку
На дасвецці
Карнікі прыкмецілі здалі,
Не да перамогі,
Дык да смерці
І яму дабегчы не далі.

Пад нагамі грымнула дарога,
У вачах хіснуўся белы свет...
І пасля
Да хутара глухога
Доўга ён цягнуў крывавы след.

І не моўк у памяці нядрэмнай
Голас,

Як душою ні крыві:
Ці не быў той даўні бунт дарэмны?
І ці варта воля той крыві?

Колькі б хлопцы тыя,
Што ў магілах,
Славы здабылі сваёй зямлі,
Колькі б нарадзілі дзетак мілых,
Колькі б хат і храмаў узнялі!..

Ды сама сабою
Не зайграе
Над шляхамі
Вольнасці зара,
Калі вісне над бацькоўскім краем
Чорны цень маскоўскага цара,
Калі мову родную гатовы
Растаптаць і знішчыць без пары
І арол,
Нахабны, дзвюхгаловы,
Заганяе ў сэрца кіпцюры.

Дзе тут будзеш разважаць спакойна,
Як канаюць лепшыя сябры,
Як хрыпіць задыхана пагоня
І палаюць за спіной бары?..

Ён за тое,
Што пазбег астрогу,
Абмінуў і ссылку, і турму,

Быў удзячны
Згінулым
І Богу,
Вечнаму ахоўніку свайму.

І ўжо ўсе гады свае
За страты,
За бяссілле,
Рану
І спалох
Быў ён перад імі вінаваты
І нічым сплаціць віну не змог.

Нёс ён тую тайную пакуту
Праз крыжы расстайных пуцявін
І, да пут будзёншчыны прыкуты,
Запавет іх не ажыццявіў.

Вось і чуе з далечы фатальнай,
Дзе глухое забыццё і змрок,
Іх апошні стогн развітальны,
Быццам неўсвядомлены папрок...

III

...Зазвінела пад столлю мітуслівая муха,
Нацягнуў свае срэбныя ніткі павук.
І забілася сэрца няроўна і глуха,
Быццам раптам мароз дакрануўся да рук.

Багушэвіч памкнуўся паклікаць кагосьці
І здзівіўся,
Які ў яго голас слабы.
Нечакана занылі пад скураю косці,
Нібы вострай іголкай кальнула ў клубы.

Ён, сабраўшы ўсе сілы,
Прыўзняўся адчайна
І на ложку разбэрсаным лёг дагары,
І ўсё нешта шукаў безнадзейна вачамі,
Хоць і ведаў:
Бяссільныя ўжо дактары.

Задаволена хмыкнуў:
У закутку на столі
Муха ўсё ж разарвала павучыны палон.
І адчуў,
Як цяпло прыплывае паволі,
Як на вейкі лагодна спускаецца сон.

Ды на момант чамусьці зрабілася душна,
І дыханне пакутліва зноў заняло,
І гарачай і мулкай здалася падушка,
І чарнець пачало на верандзе святло.

Галаву затлумілі неадчэпныя думкі,
Быццам хто разарваў успамінаў вязьмо
І наспех растрасаў даўняй памяці клумкі:
— Дзе яно,
Той разгневанай пані пісьмо?

Ён, здаецца,
Давёў яго ўсё-ткі да ладу —
Ці парваў,
Ці спаліць у каміне паспеў...
Ну а што,
Як паклаў у старую шуфляду
Ці схаваў між пажоўклых судовых папер?..

Дзе яно,
Што калісьці душу ўзбунтавала,
Што было
Нібы лёсу ягонага знак?..
Пісем розных жанчын атрымаў ён нямала.
Ды пра гэта забыцца не здолеў ніяк.

IV

«Я вершы вашы прачытала,
Пане,
Дзе струны сэрца чыстага чутны.
І мне няўцям,
Чаму не пра каханне,
А пра вясковых мужыкоў яны.

Ці ж можа жыць шляхетнае натхненне
Не ў маладым садку пры бальшаку,
Не ў замку,
Дзе блукаюць продкаў цені,
А ў курнай хаце
І ў старым шынку?

Наўмысную прыземленасць такую
Я не магу прыняць і зразумець.
Такіх радкоў ніхто не надрукуе.
Іх і ў альбоме сорамна займець.

Навошта вы растрачваеце сілы
І Божы дар
На смешную гульню?
Даволі засмучацца,
Пане мілы!
Парадуйцеся сённяшняму дню!..

А мова,
Што прыдатна для замоваў,
Для галашэнняў
І балад старых...
Навошта вам яна?
На гэтай мове
Хто зможа нешта вартае стварыць?

Уйміцеся.
Вы не ў паўстанцкім войску.
Пара паразумнець і пацішэць.
Пішыце па-расейску ці па-польску.
Вы ўмееце,
Я ведаю, вашэць.

Я паважаю вашы сантыменты,
Але не мне паверце,
А сабе:

Не вырастаюць з гною дыяменты,
Не выспяваюць дулі на вярбе.

Жыццё дае нядоўгі век паэту.
Гады сплывуць,
Як талая вада,
І ціха кануць вашы вершы ў Лету.
Мне вас шкада, шаноўны.
Так, шкада!»

V

...Зноў зрабілася лёгкім і роўным дыханне —
І нямогласць нібы адступіла сама.
«Вы няпраўду пісалі,
Вяльможная пані.
Век, адведзены мне,
Я пражыў недарма».

Багушэвіч расслаблена выпрастаў рукі,
Прахалодзе нясмела падставіў чало.
Чуйна вуха злавіла знаёмыя гукі —
Гэта птаства
Вячэрні канцэрт пачало.

Востры боль суцішаўся.
Лагода і стома
Незвычайную яснасць прынеслі ў душу.
Прыгадаў ён

Нарцысы свае каля дома
І любімага дуба задумлівы шум.

Ён як быццам здалёку
Агледзеў Кушляны —
Камяні і прысады,
Праз рэчку масток,
І малую каплічку,
І шнур заараны,
І стадолу,
І пуню,
І пахілены ток...

Тут ён доўга шукаў сваё горкае шчасце.
Тут яго даганялі адчай і жуда.
Мог жыццё ўзненавідзець
І лёс свой праклясці...
Ды нікольkі нічога яму не шкада.

Хто там сумна ўздыхае
І шле спачуванні,
Што вось ён —
Не славутасць
І не багацей?
«Я ўсё выбраў свядома,
Шаноўная пані,
І на свеце пражыў так,
Як сам я хацеў.

Вы, здаецца, жадалі мне велічнай славы,
Вы мой талент хацелі вякам зберагчы?
Што ж, я маю
Народу патрэбную справу
І паэта тутэйшага велічны чын.

Мае вершы друкуе праслаўлены Кракаў,
Дзе ў шыкоўных палацах жылі каралі.
Прызнаюся вам шчыра:
Я радасна плакаў,
Калі мне маю кніжачку ў рукі далі.

Вы пагардліва, пані,
З маёй мовы пакпілі,
Каласам маёй песні заламалі залом,
Пасмяяліся з люду,
Што ў брудзе і пыле
Хлеб для вас здабывае сваім мазалём.

Я дарую вам гэта.
Скуль жа ведаць вам,
Пані,
Як пакутна
З хмызоў,
З асакі
І балот,
А яшчэ
З прыніжэння,
Нястач,

Папіхання
Выдзіраецца мой беларускі народ?

Ён ніколькі не горшы за іншых,
Паверце,
Ну а мову мне Бог,
Як і кожнаму,
Даў.
Я яе берагу і шаную да смерці.
Не зняславіў яе,
Не забыў,
Не прадаў.

Горкі роздум мне ліст ваш тады развярэдзіў.
Я маўкліва пытаўся ў бяссоннай начы:
Што ж вы,
Дужыя, мудрыя нашы суседзі,
Нас за роўных і годных не згодны лічыць?

Чым жа мы вам, панове, так не дагадзілі —
Тым,
Што потам сваім палівалі палі,
І ў паходы вызвольныя разам хадзілі,
І сыноў сваіх лепшых вам служыць аддалі?..

Так што, можа, не кану ў бяздонную Лету
І адпраўлю ў палёт сваіх белых буслоў.
Мне было што сказаць шматгалосаму свету.
І хапіла для гэтага матчыных слоў...»

А за вокнамі рвалася квецень з пупышак
І на тонкай галінцы гайдаўся шпачок...
Сваю споведзь закончыў Багушэвіч
Францішак.
І шаптаў яшчэ нешта Мацей Бурачок...

VI

«Мой народ,
Цярплівы і зацяты,
Дбалы
І затурканы суздром,
Быў табе я доўга адвакатам,
Дык дазволь мне стаць табе суддзём.

Я табе,
Мой родны,
Мой адзіны,
Выкажу нарэшце праўду ўсю:
Гэта ты,
Калі мы ў бой хадзілі,
Не памог, як трэба, Кастусю.

Гэта ты
Збаяўся чорных катаў
І чужынцаў у свой двор прывёў.
Даравацьты мог праклятым катам,
Але ўсё забыць не меў правоў.

Ты ж адкрыў ім і брады, і сховы,
Расчыніў напоўнены засек
І прыняў,
Як дар,
Чужую мову,
А сваю аддаў навек на здзек.

Гэта ты
Разбойніцкай дзяржаве
Лепшых халуёў узгадаваў,
Песняроў суседскіх гучна славіў,
А сваіх у рэкруты здаваў.

Гэта ты,
Мой бедны,
Мой любімы,
Цягнеш на плячах пакоры крыж
І маўчыш пад крыўдамі любымі,
Слёзы выціраеш
І маўчыш.

Ты даўно згубіў святое нешта,
Стаў рабом чужому панічу.
Ну калі ж ты ў рэшце рэшт прачнешся,
Зробішся такім,
Як я хачу?..

Я гару перад табою свечкай
У самоце,
Гневе

І журбе.
І ўсё ж веру:
Жыць ты будзеш вечна,
Калі не загубіш сам сябе...»

VII

...Боль, здаецца, ужо не вяртаецца ў грудзі,
Быццам нават і ён абяссілеў і сціх.
Думкі ўсе адышліся,
Як маўклівыя суддзі,
Што вачэй не ўзнімаюць ад мантый сваіх.

Багушэвіч расправіў схуднелыя плечы,
Умасціўся ямчэй на чаканы спачын,
Перасіліў урэшце свой сум невылечны,
Перад дзецьмі і Богам нявінны ні ў чым.

Крылы сну яго лёгкае цела ўзнімалі,
Адрывалі ад роднай, халоднай зямлі —
І яго абдымалі ветру цёплыя хвалі,
І аблокі з ім разам да зорак плылі.

Таямнічаю музыкай клікалі высі.
Узіраўся ён пільна з высокіх нябёс,
Як унізе блакітныя рэчкі віліся
І ядловец зялёнымі купкамі рос.

Зноў ён поўніўся ўцехай нязвыклаю нейкай,
Калі млела душа і спявала сама —

Разам з дудкай
Суладна гучала жалейка,
Ціха плакала скрыпка,
Рыдала сурма.

А яму ўсё было гэтай музыкі мала,
Ён здалёку лавіў звон цымбальнай струны.
І сляза ў прасвятленні святым закіпала:
Ах, як хораша граюць,
Як далёка чутны!

Хмельнай радасцю горача сціснула горла —
І шчаслівая зорка ўзышла ў сіняве:
Беларусь адгукалася —
Значыць, не ўмёрла!
Беларусь не знямела,
І значыць — жыве!



Здавалася б,
Пражыта ўжо так многа,
Што можна ўсё наперад угадаць.
Але жыве ў душы маёй трывога
Аб невядомых будучых гадах.

Што прынясуць яны ў наш край панылы,
Што пракладзе па ім наш век ліхі —
Ці новыя дачасныя магілы,
Ці ясныя і шчасныя шляхі?

Ці хутка наша веліч уваскрэсне?
І што пачуе ўвесь абсяг зямны —
Матуліны няскончаныя песні
Ці звонкія чужыя кайданы?..

Чаго цыбаты белакрылы бусел
Дадому прылятае ўсё радзей?..

Я за сябе даўно ўжо не баюся —
Баюся за Радзіму і дзяцей...



Кажуць,
І ў нашым краі
Ёсць чорная глухамань,
Дзе моўчкі жыццё памірае,
Дзе кладкі зацягвае твань,
Дзе поле даўно не ворана
І не прыбраны лаўжы,
Дзе воран ляціць да ворана,
А воўк да ваўка бяжыць,
Дзе квакаюць жабы сытыя
І плодзяцца слімакі,
Дзе злосна гадзюкі сыкаюць
І рохкаюць грозна дзікі...

Я гэткай не бачыў мясціны,
Але з некаторай пары
Мне багнаю,
Цвіллю
І цінай
Не раз патыхаюць вятры
І ў прыцемку шэрым здаецца —
Крадзецца балотная здань,
І душыць збалелае сэрца
Дрымучая глухамань...



На плошчы шматлюднай
І ў зале
Карціць запытацца адно:
Ну дзе ж тыя светлыя далі,
Што нам абяцалі даўно?

Дзе той небывалы дастатак,
Што сам так і просіцца ў рот?
Нібыта разгублены статак,
Стаім і чакаем даброт.

Душа перапоўнена сумам.
І сэрца шчыміць па начах.
Жыццё прымушае нас думаць,
А час прывучае маўчаць.

І цешым надзеяй слабою
Мы долю сваю
З году ў год,
Што зменяцца самі сабою
І час,
І жыццё,
І народ...



Змрок загусцеў за вакном
І праз хмары прабілася зорка,
Калі я патушыў лямпу
І залез пад цёплую коўдру.

Стома сплывала патроху з плячэй.
Пад падушку хаваліся думкі.
Вейкі салодка зліпаліся.
З пальцаў вyслізгвала тонкая нітка дзённых
турбот.

Сон ужо плыў нада мною
Ласкавай смугою
І ўсё ніжэй апускаўся...
І раптам
Нехта ў шыбіну грукнуў
Настойліва і нечакана.

Я падхапіўся спалохана:
Хто гэта —
Злодзеі?
П’яны сусед?
Ці начная галодная птушка?
Ці разгайданая ветрам
Галінка засохлага бэзу?..

Як ні ўглядаўся,
Нічога

Не змог за вакном разгадаць —
Ні адзінокага дрэва,
Ні постаці чорнай,
Ні ценю.

Лёг супакоены,
Так і не ўцяміўшы добра,
Ці гэта праўда было,
Ці прыснілася толькі.

Але,
Як сон мяне мройна пачаў закалыхваць,
Зноў нехта грукнуў у шыбу
Настойліва і неадступна.

Злосна ўсхапіўся я з ложка
І крыкнуў у цемру,
Нібыта ў твар ненавісны
Нахабнаму госцю:
— Хто там?!

І ціха ў адказ даляцела
Нясмелае, сумнае слова:
— Трывога.
І прашаптала яшчэ
Ці ледзь чутна прашамацела:
— Я ўсё па свеце хаджу
І прашуся ў спакойную хату,
Каб каля шчасця пагрэцца,

Прылегчы ў закутку
І ні аб чым не прасіць...

Я пайшоў адчыняць свае дзверы
І запрасіў яе ў хату:
— Заходзь.
Табе знойдзецца месца.
Можам святло запаліць.
Можам разам на лаўцы прысесці,
Паспавядацца
Ці моўчкі паслухаць начное зацішша...

— Дзякуй. —
Яна непрыкметна парог мой пераступіла
І прымасцілася сціпла на ўскраечку ложка.
— Я прытамілася.
Сёння далёка не кожны
Дзверы даверліва мне адчыняе.
Баяцца
Вока чужога, дыхання чужога,
Турботы.
Я ж не хачу дабаўляць ні спалоху, ні злосці.
Я толькі проста напомніць хачу,
Што на свеце
Ёсць і бяздомныя,
Ёсць і самотныя людзі,
Ёсць і няўдаліцы,
Ёсць і сіроты...

Доўга яна яшчэ нешта шаптала,
Ды ўрэшце заціхла.

А я
Так і не змог ужо болей заснуць,
Хоць у шыбу ніхто не пагрукаў...

Спіце спакойна, суседзі:
Трывога
Сёння начуе ў мяне...



Гэткі ў свеце адвечны парадак,
Што прыходзяць асеннія дні,
Калі болей няма ўжо загадак,
Засталіся адгадкі адны.

І крыло сваё бусел падставіў
Пад вятры на далёкай мяжы,
І няма ўжо ніякіх падставаў
Пра вясновыя сны варажыць.

Ды, хоць дзень павуцінкаю тонкай
Спавівае смугу і журбу,
На лугах столькі позніх рамонкаў,
Што не варта канчаць варажбу.



Дзе тыя словы,
Што просяцца ў споведзь і ў песні,
Што адмыслова
Хаваюцца ў лузе і ў лесе,
Што невядомы
Ні мудрым таджыкам, ні курдам,
Ні дармаедам бяздомным,
Ні подлым манкуртам,
Што засталіся
Спрадвечным імём таямніцаў
У лопаце лісця
І булькатанні крыніцаў?

Знойдзеш ты гэтыя словы
У маці ў застоллі,
У клекатанні бусловым
І жытам засеяным полі,
У гаманлівых бярозавых шатах
І красках над сцежкаю вузкай...
Толькі павінна душа твая
Быць беларускай...



У памяці запаслівыя сховы
Паклалі мы калісьці
Да пары
Дзіцячыя бясхітрасныя словы
І вабныя малюнкі ў буквары.

І вось цяпер,
Дачасна пасівелы,
Трывожу долю горкую сваю —
З пасляваеннай памяці
Нясмела
Наіўныя ўспаміны дастаю.

...Краплісты дождж па шыбе барабаніць,
А я да шкла прыціснуўся ілбом
І паўтараў:
«Не будзем мы рабамі».
І сапраўды ў той міг не быў рабом.

Пасля мяне старанна навучалі
Не супярэчыць сіле і мане,
Бо і ў мяне заўсёды ёсць начальнік —
Ён мае права думаць за мяне.

Я на яго міжволі азіраўся,
Хоць зарабляў усё сваім гарбом,
Але як я ні пяўся, ні стараўся,
А перад лёсам часта быў рабом.

І сам сабе змярцвелымі губамі
У моманты адчаю паўтараў
Той даўні шэпт:
«Не будзем мы рабамі».
Ды не знаходзіў побач бунтара.

І мой запал студзіў наш век суровы.
І шлях ішоў па цернях і жарстве...
Ды ў сэрцы ў самых запаветных сховах
Святая памяць і цяпер жыве.



...А нашы дрэвы,
Нашы рэчы
Жывуць на свеце пасля нас.
У іх куды мацней,
Дарэчы,
Зямной трывучасці запас.

Яны не ведаюць маралі,
І пасля здрад людскіх
Яны
Так і стаяць,
Як і стаялі,
Ці — пад вакном,
Ці — ля сцяны...

І ўсё ж,
Я спадзяюся ўпотай,
Што ў гарачынь
І ў халады
Яны
Наш кожны стогн
І дотык
Хаваюць моўчкі праз гады.

І, можа, ў тым таксама шчасце,
Што ўсё,
З чым мы жылі ў свой час,
У што паспелі сэрца ўкласці,
Не памірае пасля нас...



Як бег дадому я,
Заўжды
Вітаў слупы здалёку.
Вось і сягоння,
Праз гады,
Яны навідавоку.

Перада мной бацькоўскі кут
Увесь
Як на далоні:
Над крушняю —
Альховы куст,
Пасуцца ў лузе коні.

Двары схаваліся ў садах.
На плёсе дрэмле лодка.
Садзіцца на суседскі дах
Шпачыная чародка.

Чарнее ельнік на градзе
Ля выгану старога.
І ў невядомы свет вядзе
Бязлюдная дарога...



Трон восені яшчэ зусім пусты,
Бо не хапае золата ў кароне.
Як дыверсанты,
Жоўтыя лісты
Хаваюцца ў яшчэ зялёнай кроне.

Не хоча лета аддаваць ключы
І поіць сонцам пругкія націны,
Але ўжо сувязь тайную ўначы
Цераз паляны цягнуць павуціны.

І хай абвіты кветкамі паркан
І рана думаць пра вятры і слоту,
А ўжо не спіцца на лугах шпакам
У прадчуванні хуткага адлёту.

І ўжо гаі шумлівыя
Фасон
Гатовы памяняць ва ўборах яркіх,
Каб золатам сваім
Аздобіць трон
Для новай наравістай валадаркі.

## Канец верасня

Ціхі вераснёўскі вечар
Адплывае ў цемру ночы.
Ні бяроза не трапеча.
Ні сарока не сакоча.

Цені ў полі разбрыліся,
Як у вымерлым Акроплі.
У яшчэ зялёным лісці
Дождж схаваў цяжкія кроплі.

І пакуль не водзяць зоркі
Каля поўні карагоды,
Паўцякалі ў лес вавёркі
Ад асенняй прахалоды.



Блакітным слупам аж да неба ўздымаецца
дым.
Ні ветрыку.
Позняе вогнішча ціха чадзее.
Пяюць салаўі.
І так хочацца быць маладым!
І першая зорка ўсплывае,
Нібыта надзея.

Зусім недалёка вясёлыя крыкі чутны.
І пыл асядае
На бойкай вясковай дарозе.
Уткнуліся ў бераг насамі
Пустыя чаўны.
І люлькі свае
Раскурылі дзяды на парозе...

А я —
Як чужы,
Як не свой
Ні адным, ні другім,
Самотна сяджу
Каля дымнага недагарка...
Пяюць салаўі.
Адплывае за возера дым.
І зорку
Закрыла лятучая лёгкая хмарка...



Капае, капае дождж.
Кроплі аб шкло разбіваюцца.
Восень сумуе...
А ўсё ж
Летнія мары збываюцца.

Мокрыя шаты садоў
Перагукаюцца весела —
Зыркія поўні пладоў
Яблыня шчодра развесіла.

Вецер гуляе ў тарпах,
Зжатае поле парадкуе,
Кропу даспелага пах
Носіць нясмела над градкамі.

Хоць паніжэў небакрай,
Кінуты песнямі звонкімі,
Змоўклы рабінавы гай
Свеціць чырвонымі гронкамі.

Лета за рыжыкаў кош
З лесам ніяк не расплоціцца...
Капае дождж.
Ну і што ж?
Хай сабе восень клапоціцца...



Я іду,
Іду,
Іду
Берагам адхоністым
І ў вірлівую ваду
Кідаю каменьчыкі.
Ты,
Хаця і на віду,
А за мной не ўгонішся.
Ды і вецер —
На бяду —
Сёння пераменчывы.

Адкажы мне,
Падкажы,
Колькі лодак спушчана
На Дзвіне і на Сажы,
На Случы і Прыпяці,
Дзе схаваліся дажджы,
За якімі пушчамі,
Дзе мы ў шчасця на мяжы
Разам зможам выплысці.

Мы забудзем кладкі ўсе,
Ад мастоў адмовімся.
Плынь нас лёгка панясе
Да гаёў прыцішаных,
Покуль зоркі на расе

Замігцяць па-змоўніцку,
А на згубленым вясле
Поўня закалышацца...



Прырода змены прывячае,
Гасцінна кліча на пасад —
І восень
Яснымі вачамі
Глядзіць спакойна з-за прысад.

Яна ўжо адшукала сцежку
За далягляды
Праз палі,
Дзе верас высахлы
На ўзмежку
Агонь блакітны распаліў,
Дзе павуцінне
З лоз намоклых
Звісае струнамі тугі,
І пыл асеў,
І птушкі змоўклі,
І чорна высяцца стагі.

Начамі выстылі баразны.
Лёг пад паветкаю нарог.
Як свечкі,
Тонкія бярозы
Стаяць паныла ля дарог.

І хоць антонаўкі і грушы
Яшчэ ў садах не ўсе знялі,
Вятры асеннія

Цярушаць
І гоняць лісце па зямлі...



*Сябрам-шасцідзясятнікам*

Мы — розныя,
Як розныя мясціны,
Што нас у свет шырокі прывялі.
У кожнага ёсць свой куток адзіны,
Найлепшы,
Найраднейшы на зямлі.
У кожнага свае хмызы і крушні,
Свае лугі, пагоркі і раўкі,
Свой маладзік,
Загадкавы і скрушны,
Свой адзінокі явар ля ракі...

Мы — розныя,
Як розны лёс і досвед,
Якія мы пранеслі праз гады.
З нас кожны зберагае ў сэрцы водсвет
Загадкавых заранак маладых.
У кожнага свае шляхі і вёсны,
Свае вышыні,
Бездані свае,
Свае чаўны, і ветразі,
І вёслы,
Якія час ужо ў архіў здае...

Мы — розныя.
Ды нас усіх яднае
Спазнаная душою спакваля
Крынічная,
Сунічная,
Лясная
Пясчаная бацькоўская зямля,
Радзінны край,
Цярплівы і збалелы,
Гасцінны,
Як рассцелены абрус,
У тысячах навалаў ацалелы,
З благаславенным імем —
Беларусь...



Скупыя высокія словы —
Як споведзь,
Як роспачы ўздых.
Яны — нашай веры аснова.
Не кпіце паблажліва з іх.

У шчасці,
Адчаі,
У бунце
І ў нашы праклятыя дні
Вы сэрцам сягнуць паспрабуйце
Да іхняй святой вышыні.

Яны нам паходню запаляць
У здрадлівай шэрай імжы.
Яны яшчэ прыйдуць на памяць
На самай апошняй мяжы...



Ты ўдачлівы,
Калі табе не трэба
Шторанку думаць пра кавалак хлеба
І над табою цэлы дзень не вісне
Начальнік,
Як наглядчык ненавісны.

Ты ўдачлівы,
Калі цябе хвароба
Не джаліць,
Як бязлітасная кобра,
І абмінае тваю хату злодзей,
І ўся сям'я жыве ў вясёлай згодзе.

Ты ўдачлівы,
Калі ў дурным тубыллі
Твае сябры твой адрас не згубілі,
І груз бяссілля не ссутуліў плечы,
І страх табе душу не пакалечыў...

Хто скажа мне,
Калі такая ўдача
У рэшце рэшт і да мяне прыскача?..



Ах, колькі развялося ў нас гісторыкаў!
Ледзь хто ў кішэню пакладзе дыплом —
Тутэйшых не адолеўшы пагоркаў,
Аж на Парнас шыбуе напралом.

Нашто глытаць зляжалы пыл архіваў?
Нашто вякі былыя варушыць?
Куды прасцей —
Без рызыкі і зрываў —
Здзімаць пушынкі з сённяшніх вышынь,
Для апанентаў запасціся сажай,
Наклікаць падазронасці прыліў...
Хіба так важна,
Што навука скажа?
Абы начальнік гучна пахваліў.

Абклееных высокімі чынамі,
Ніхто ўжо іх з пасадаў не саб'е.
Яны саманадзейна пачынаюць
Летазлічэнне новае з сябе.

Абсмоктваюць цытаты і адсоткі,
Густым ялеем змазваюць талмуд...
Няўжо зусім забыліся,
Што ўсё-ткі
Гісторыя ўсім вынесе прысуд?..



Столькі шэрага туману
На былое напусцілі,
Што не знойдзеш
Без падману
Ані казкі,
Ані былі.

А калі туман рассеецца,
Пачынаюцца дэбаты,
Дзе палякі,
Дзе расейцы,
Дзе славяне,
А дзе балты.

У зацятай спрэчцы
Стусам
Боль і гнеў кладуць на вагі...
Толькі бедным беларусам —
Ні запрасінаў,
Ні ўвагі.

Валакуць бясконцым цягам
На плячах бяду старую,
Нехта нас на захад цягне,
Нехта нас на ўсход кіруе.

Нам аруць мячамі нівы,
Нам свінцом малоцяць збожжа.

І стаім мы сіратліва
На разбітым раздарожжы...



Нічога выдумляць не трэба —
Ні парыванняў незямных,
Ні перакуленага неба,
Ні ведзьмакоў,
Ні вадзяных,
Ні хітрых ворагаў замежных,
Ні ўласных волатаў лясных,
Ні выратоўнікаў заезджых
Або прарокаў запісных...

Хай будзе,
Як было вякамі
У рэчаіснасці жывой:
Зямля з травою —
Пад нагамі,
А небасхіл —
Над галавой.
Хай у запозненай бяседзе
З душы здымаюць сум цяжкі
І памяркоўныя суседзі,
І гаманкія сваякі.
Хай не дае драмаць бярозам
Вясёлых птушак мітусня
І грамадой кіруе розум,
А не харызма і хлусня...



Не верце людзям,
Што залішне часта
Кладуць сабе на сэрца даланю.
Па фарысейскіх правілах махлярства
Ім гэткае рабіць не ўпершыню.

Не верце ім,
Што яснымі вачыма
Глядзяць у твар,
Гародзячы лухту.
Іх з каляіны выбіць немагчыма.
Яны хлусню сплятаюць на ляту.

Ім праўда ваша горкая абрыдла.
Яны прывыклі
На свой белы хлеб
Намазваць густа
Пахвалы павідла
І гучна чаўкаць,
Каб другім няўсцерп.

Ім напляваць на вашую нястачу.
Іх не цікавіць нашае жыццё...

О, як балюча мне,
Калі я бачу,
Як вы за імі следам ідзяцё!..



У кожнага свой час,
У кожнага свой лёс.
І ці ты зменіш іх хоць на хвілінку?..
Вось і цягні штосіл
Зямны рыпучы воз
Да самага апошняга прыпынку.

На рытвіны і дождж цярпліва не зважай,
Абы ўдалечыні агеньчык свой угледзеў.
І хітра не хавай
Нагружаны ўраджай
Ні ад старых бацькоў,
Ні ад скупых суседзяў.

На час свой не крыўдуй,
На лёс свой не ківай.
Круты і доўгі шлях
Адольвай безупынку.
Прымі,
Як Божы дар,
І белы каравай,
І чорную счарсцвелую скарынку.

Пад коламі няхай пагрукваюць масты
І шле з-пад хмар жаўрук
Вясёлае прадвесце.
Каб толькі ў судны дзень
Твой воз не быў пусты
І на начлег ты ўспеў вандроўніка падвезці...



*Да «мінімізацыі» праграм*
*па беларускай літаратуры*
*ў школах*

Ну што,
Браткі Рыгор і Ніле,
Мінімізіравалі нас
І перад намі зачынілі
Запоўнены дзятвою клас.

І мы патрапілі ў апалу
Да тых,
Каму даўно карціць
То падрэдагаваць Купалу,
То Быкава падкараціць.

Ім замінае наша слова,
Таму і выгнана яно
І з тэлескрынак мадэрновых,
І з найсучаснага кіно.

За маладзёнаў узяліся,
Каб перш,
Чым выправіць у свет,
Атрэсці,
Як сухое лісце,
З іх душ
Радзімы першацвет.

Нахабныя, тупыя зухі
Такі наладзілі хаўрус,
Што ўжо вось-вось мінімізуюць
Саму краіну Беларусь...



Хаця ў кішэнях драбяза брынчыць,
Чужыя грошы не люблю лічыць.

Мне даспадобы варыянт такі,
Калі ў людзей цяжэюць кашалькі,
Калі за свой праліты шчодра пот
Жыць можна без згрызот і без турбот.

Але і мне,
Бывае,
Крыўдна мець
Не золата,
Не серабро,
А медзь.



Я і не ведаю нават,
Адкуль яна раптам з'явілася —
Гарэзная,
Неабдымная,
Нястрымная,
Хмельная
Радасць,
Што перапоўніла сэрца
Адчуваннем хуткай удачы,
Уліла ў мае рукі сілу
І ласкаю затуманіла вочы.

Я набрыняў ёю,
Як сокам асенні яблык.
Яна ўжо ўва мне не змяшчалася.
І я выбег на вуліцу.

Сонца здзівілася —
І абмыла мне твар цеплынёю.
А вецер пацалаваў мне шчокі.
І трапяткі матылёк
Даверліва сеў на плячо.

Я ўзрушана ўсміхаўся
Паўдзённаму чыстаму небу,
Клёну ў двары,
Буркатліваму голубу на балконе

І перапоўненаму трамваю,
Якому велікадушна саступіў дарогу.

Я зазіраў у вочы сустрэчным
І ківаў ім яшчэ здалёку:
«Добры дзень!
Мне хораша разам з вамі.
Спадзяюся,
Усё ў вас у парадку?»

Але хіхікнулі па-блазенску дзяўчаты,
Адбегліся ўбок жанчыны з пакункамі,
Сівы пенсіянер у вайсковым фрэнчы
Пакруціў каля скроні пальцам,
А чарнявая высокая прыгажуня
Гучна выгукнула:
«Вар'ят!..»

Ах, вам не патрэбна мая радасць?
Вы не хочаце да яе далучыцца,
Вас яна раздражняе,
Вы ад яе адвыклі?
Шкада!

Я ж нічога іншага
Не магу вам прапанаваць.



Свет даўно зрабіўся прагматычным,
Прызнаеш ты гэткае ці не.
І цяпер
Натурам паэтычным
Сумна жыць і ў роднай старане.

У душу рамантыка не лезе.
Песні заглушыў эстрадны крык.
Уладараць
Грошы і жалеззе.
Правяць баль
Нахабства і разлік.

Прадаюцца
Ківі і папайя,
Прыгажосць,
Пасады
І інтым...
Ды ўвесь час
Чагосьці не хапае
Нават самым мудрым і крутым.

І яны ўжо сняць
Удачу тую,
Што здаўна ў паэзіі жыве
І зусім нічога не каштуе,
І па небе воблачкам плыве...



Не бойцеся начальнікаў.
Яны —
Зусім не геніі.
Яны —
Ва ўсім звычайныя,
Не Гётэ,
Не Тургеневы,
Не Рузвельты,
Не Сталіны,
Не Вітаўты,
Не Скірмунты...
Як лёгка ўверх пастаўлены,
Так хутка будуць скінуты.

Хоць выглядаюць пеўнямі,
Паважныя і строгія,
Але ўсе іх запэўненні —
Пустая дэмагогія.

Жывуць,
Нібы на хутары,
Спалоханымі лісамі.
А ўсе загады мудрыя
Дарадцамі напісаны.

Хоць пазіраюць з пыхаю,
Ды пыха —
Недарэчная.

І ўся улада іхняя —
Нявечная.
Не вечная.

## Фантастычнае, чыста беларускае здарэнне на пачатку XXI стагоддзя

Каля ракі
Сярод лясоў
У прыдарожнай вёсцы
Жыў-быў сярэдніх год мужык,
Не бедны, не багаты.
Усё было
Як у людзей:
Дагледжаная хата,
Садок,
Кароўка
І свінчо
І трое дробных дзетак.
Усё, што трэба, ўмеў мужык —
Касіў,
Араў
І сеяў,
Сам лодку змайстраваў сабе
І выкапаў калодзеж.
І толькі адчуваў заўжды
Вялікую няёмкасць,
Калі што-небудзь для чужых
Сказаць была патрэба.
Тады здавалася яму,
Што высыхала ў роце
І замінаў ва ўсім язык,
Няўклюдны

І няўмелы.
Ён слоў шляхетных, «гарадскіх»
Ніяк не мог успомніць
І нехлямяжасці сваёй
Саромеўся пакутна.

І вось аднойчы да яго
Прыйшоў заезджы лекар,
Садок ягоны пахваліў,
Дрывотню
І калодзеж.
А потым,
Як сардэчны друг,
Шапнуў яму на вуха:
Маўляў,
Праблема з языком,
Я чуў,
Цябе трывожыць.
Дык гэта сёння не бяда,
Навука ў нас такая,
Што з ліхам справіцца любым
І хутка, і надзейна.
Адно каб толькі згоду даў,
Не адкладаў надоўга.
— А аперацыю зраблю
Я нават і бясплатна.
Ты будзеш мець такі язык
І гнуткі,
І прыгожы,

Што зможаш на любы кангрэс
З дакладам заявіцца...

Пачухаў галаву мужык:
Паверыць эскулапу,
Вядома, боязна,
Але ж
І вельмі ўжо спакусна.
Спытаўся ў лекара:
— Скажы,
Ты мой язык адрэжаш?
— Але ж пастаўлю я табе
Другі,
Намнога лепшы.
— А мой куды падзенеш ты?
Што, аддасі сабакам?
— Ды не.
Пакіну я табе
Яго,
Заспіртаваўшы.

Паскроб патыліцу мужык:
Няпростая задача —
Хоць і благі язык,
Ды свой.
Як без яго застацца?
Але тут лекар завяршыў
Гаворку кампрамісам:

— Пакінем напалову твой,
А да яго прышыем...

І змоўк разгублены мужык:
Ну што ж,
Хай так і будзе,
І свой язык уберагу,
І з новым параднюся.
У горад з’ездзіў —
І дамоў ад лекара вярнуўся
Такім,
Як быў,
І не такім —
Байчэйшым і смялейшым.
Ці да сваіх,
Ці да чужых
Цяпер ён гэтак рэжа,
Што толькі слухаць паспявай —
Адкуль усё бярэцца.
Суседзі дзівяцца:
— Штукар!
Ты гэткі языкаты,
Што ці ў начальнікі ідзі,
Ці хоць бы ў тэлевізар...

А ён,
Нацешыўшыся ўсмак,
Стаў адчуваць у роце
На языку

Тугі рубец,
Які ўсё болей муляў.
На сходзе выступіць —
Рубца
Зусім не адчувае,
А дома да дзяцей гукне —
Чапляецца за зубы.
Ну а найболей ён пячэ,
Калі сябры збяруцца
І дружным гуртам запяюць
Свае старыя песні.
Тады здаецца,
Што язык
Зняможана мярцвее
І ўсё не патрапляе ў лад
Знаёмаму матыву.
І калі ўраніцы
Душа
Захоча памаліцца —
Нібы вужака,
Той рубец
Сухі язык сціскае.

Шмат дзён,
Як мог,
Трываў мужык,
Ды,
Лекара пракляўшы,
У горад кінуўся з плачом:

«Усё назад вярніце!»
Але дапамагчы яму
Ужо ніхто не здолеў.
І ён у роспачы
Язык
Сваёй рукою вырваў...

І вось цяпер
Жыве нямым,
Знябытым
І самотным
Каля ракі
Сярод лясоў
У прыдарожнай вёсцы...



Дарэмнай працы не бывае.
Заўжды патрэбнымі былі
І той,
Хто па́лі забівае,
І той,
Хто водзіць караблі.
І той,
Хто дбайна
Хоць аднойчы
Зярняты кінуў на палі,
І той,
Хто ў моры
Сярод ночы
Маяк патухлы запаліў,
І той,
Хто ў космас нелюдзімы
Свой голас зоркаю паслаў,
І той,
Хто песню для Радзімы
Душой расчуленаю склаў...

Усе —
Хто з гарадоў,
Хто з вёсак —
Нясём мы крыж нялёгкі,
Каб
Пакласці свой пасільны ўнёсак

У наш зямны агульны скарб,
Каб не сумецца перад светам
У сумятні працоўных дзён
І адчуваць яшчэ пры гэтым,
Што плён твой кожнаму відзён...



Мне раілі:
«Спыніся,
Не бушуй,
На галаву сваю бяду не клікай,
Не надрывай пакутную душу
Нікім дагэтуль не пачутым крыкам.
Хай будзе ўсё так,
Як азначыў лёс,
Як загадзя прадыктавала неба.
Народ і не такое перанёс.
Няўжо табе за іншых болей трэба?
Не лезь наперад
І не рві гужы,
Не кідайся ў агонь,
Як на пажары.
Маўчы сабе,
Здароўе беражы.
І будзеш мудры ты і паважаны.
Ад шчырасці ж карысці ні на грош.
Што толку,
Як ты ўсё гаворыш смела?..»

І вось я супакоіўся.
І што ж?
Душа мая баліць,
Як і балела.



Што не хворы —
Дзякуй Богу,
Не самотны —
Дзякуй людзям.
Выбірай сабе дарогу,
Дзе заўсёды сонца будзе.

Беражы слязу —
Для шчасця,
Беражы любоў —
Для ўнукаў.
Ні суседу,
Ні начальству
У азызлы твар
Не хукай.

За скупым сталом бяседным
Не трымай сябе асобна.
Край свой маеш —
Дык не бедны.
Дом свой маеш —
Ну і добра...



Не ўцякай,
Вавёрка,
Ад мяне.
Аднаму мне сумна ў будане.

Апускайся з вершалін сваіх.
Мы з табой паладзім удваіх.

За прыбраны стол цябе пушчу,
Выспелых арэхаў налушчу.

Хто б там ні папаўся паначы,
Памагу прыпасы зберагчы.

Будзем слухаць разам стогн савы
І бяссонны вецер верхавы.

Нам не будзе цесна ў будане...
Не ўцякай, вавёрка, ад мяне.

Трэба ж,
Каб жылі і ў шалашы
Хоць бы дзве самотныя душы.



Штораніцы гляджуся ў сіняву,
А ўвечары пасу туман на лузе.
Я з птушкамі і дрэвамі жыву
Адзін у абязлюдзелай акрузе.

Хаваемся мы разам ад дажджу,
Баронімся ад ненаеднай гнюсі.
Я шчыра іх даверам даражу
І хоць бы нечым памагчы імкнуся.

То булкаю падлётка пакармлю,
Каб абышла яго пара цяжкая,
То ветрам разламанаму камлю
Надзейную падпорку адшукаю.

Так і жывём мы на адным двары,
Не робячы адзін другому шкоды,
Усе як ёсць —
Сябры,
І ўсе —
Цары,
І ўсе — сыны адной зямной прыроды...



Я думаў,
Што даўно ўжо гарадскі
І ад жыцця вясковага адвык,
Якое,
Нібы памяці адлік,
Схавалася на дне маёй душы.

А вось прайшоў па пыльным бальшаку,
Схіліўся над крынічкаю ў бары,
І — Божа мой! —
Як успамін стары
Усё ўва мне салодка скалануў!

Я іх пазнаў,
Маіх былых сяброў:
Аброслы мохам прыдарожны камень,
Дубовы гай,
Дзе разам з хлапчукамі
Чакаў і я абранніцу сваю.

Заплюшчыў вочы —
І здалося мне,
Што бацька пад вакном сядзіць нязменна
І мне
На шчасце
Поўным возам сена
Сусед дарогу перагарадзіў.

І піў нагбом я вецер палявы,
І лёт стрыжоў сачыў у сіняй высі,
І першароднай цішыні дзівіўся,
Нібы вяртаўся ў залатыя сны...

Які я там урэшце гарадскі,
Калі мяне так вабіць родны кут
І ўсе гады мяне чакае тут
Гняздо ўсіх песень і надзей маіх!..



Начному Мінску я не давяраю,
Хаця ніхто на плошчах не галёкае,
І ходзіць ціша цёмнымі дварамі,
І ў небе стыне зорка адзінокая.

Ляцяць праспектам позні машыны.
Міліцыянт жазлом уладна тыцкае.
І лезе ў скверы да дзявочай шыі
Рука спрактыкаваная бандыцкая.

Начальнік спіць салодка пад аховаю.
Шукае бомж прытулку недалужна.
Кухонныя размовы падслухоўвае
Нядрэмная, негаваркая служба.

Ніхто не лямантуе і не сварыцца,
Не дыхае ў спіну бульдога морда...
А мне здаецца,
Што атрута варыцца
У чорным сагане начнога горада.
І прывідамі поўняцца гарышчы,
І ў сутарэннях прыхавалі плаху...

А што ніхто не крыкне,
Не засвішча,
Дык гэта ад затоенага страху...



Быт
Асляпляе золатам рыбак.
Біт
Забівае мелодыю скрыпак.
Снег
Прыгінае галіны да долу.
След
Падганяе дарогу дадому.

Рум
На світанні бярвеннем грукоча.
Сум
На расстанне прыцьменьвае вочы.
Ліс
З-пад зламанай хваіны цікуе.
Лёс
Падкідае часіну цяжкую.

Мох
Адрастае на стылых палянах.
Смог
Атрасае лісты на каштанах.
Ноч
Павяла свае здані да яру.
Нож
З-за вугла выглядае ахвяру.

Чад
Палынова гуляе над снамі.
Час
Зноў і зноў забаўляецца з намі.

І ўсе трывогі,
Баі,
Летуценні,
Зорак мігценне
І сосен трымценне —
Нашай юдолі і долі сспляценне,
Шчасця імгненні
І вечнасці цені...



Покуль быў бязгрэшна малады,
На красу дзівіўся не заўсёды.
Можа, толькі ў сталыя гады
Зразумеў я прыгажосць прыроды.

Тую,
Што не зблытаеш ні з чым,
Што жыве ў душы малітвай даўняй,
Што дала дыханне і зачын
Старажытным песням і паданням.

Я цяпер узрушана хаджу
І пагляд свой не магу адвесці
Ад надрэчных верб пасля дажджу
І вясёлкі,
Што палае ўверсе.

І сачу,
Расчулены да слёз,
Як плывуць над дымкай сіняватай
Трапяткія ветразі бяроз
І халодны месячык шчарбаты.

А ўдалечыні блішчыць ледзь-ледзь
Ціхае вячэрняе азерца...
І хто знае,
Ці змагу паспець
На ўсё гэта ўдосталь наглядзецца?..



Калі б Хрыстос і сапраўды ўваскрос,
Да глыбіні душы ён бы здзівіўся,
Як мала гэты свет зямны змяніўся,
Як многа ў ім і подласці, і слёз.

І можа б, нехта славу Богу ўзнёс,
І на святыні шчыра памаліўся,
І хоць на міг да лепшага змяніўся,
Калі б Хрыстос і сапраўды ўваскрос...

## Начная адзінота

Такая цемра навакол,
Што не відно ніводнай зоркі.
Схавана ўсё:
І шэры дол,
І ў барвах восеньскіх узгоркі.

Ні вузкіх сцежак,
Ні дарог
Не знойдзеш асцярожным крокам.
Хіба што вылеціць з-пад ног
Малы каменьчык ненарокам.

Рачулка нават не відна.
І хоць бы гук падкраўся ўпотай.
Накрыла ўвесь сусвет адна
Сляпая ціша адзіноты...



Душны дзень на пыльнай прызбе ўлёгся,
Завяршыўшы клопат свой цяжкі.
Пад вакном схілілі голаў флёксы,
З выгану вярнуліся шпакі.

Ціха так,
Як быццам і анёлы
Леглі спаць ля цёплых аблачын.
Конікі —
Малыя балаголы —
З'ехалі нячутна на спачын.

Лёг туман на высмяглыя нівы.
Змоўк над лугам хрыплай кані плач.
Толькі азываецца ляніва
Час ад часу сіратлівы драч...

## Восень ідзе

Адшумела краскамі,
Адмігцела росамі,
Трон свой
Лета краснае
Саступае восені.

Лісцем ападаючы,
З першай павуцінаю
Адплывае ў далечы
Чарадой гусінаю.

Векавечнай тайнаю
У гаях успырхвае
Песня развітальная,
Сумная і ціхая.

На дарогу моляцца
Журавы над ліпамі,
Будзячы ваколіцу
Восеньскімі ўсхліпамі.

З хмаркамі азяблымі
Сонейка маркоціцца,
Пераспелым яблыкам
Па іржышчы коціцца,
Бліскаючы промнямі,
Лета ўспамінаючы,
Ад празрыстай Кромані
Да блакітнай Нарачы...

## Бабіна лета

Водарам грыбным напоўнена паветра.
Высахлых лістоў на сцежках —
Па паўметра.

Сонца ўсе кляны за дзень пазалаціла.
На сухі палын наліпла павуціна.

У высокім небе сінява застыла.
У гародах — пуста.
У садах — панылы.

Пад нагой лістота шапаціць ахвоча —
За дажджы і слоту апраўдацца хоча...



Замаўкае вуліца,
Пыл спадае ніц.
Палахліва туліцца
Сон да аканіц.

Да паркана хіліцца
Ацяжэлы бэз.
На рыпучай мыліцы
Драч спяшае ў лес.

У садку пад вішняю
Шпак хавае трэль.
І гудзе пад ліштваю
Запазнелы чмель.

Тухне жар у грубцы,
І пры ёй
Адна
Толькі маці руціцца:
Не хапіла дня...



Я прачнуўся на досвітку
Ад адчування,
Што нешта муляе за плячамі,
Нешта нябачнае, неасязальнае
Казыча паміж лапатак.

Я выбег на ганак —
І стаў павольна ўзнімацца
Над прыціхлым падворкам,
Над садам,
Над дахамі,
Над электралініямі,
Над зялёнай зямной прасторай.

Было мне вольна і лёгка.
Я дзівіўся тайнай сіле,
Што трымала мяне ў блакіце.
Я мог дыханнем падагнаць хмарку,
Пакарміць з далоні жаўранка,
Ухапіцца рукамі за вясёлку.

Ува мне ўсё спявала.
Я быў добры
І нават шчаслівы.
Мне хацелася верыць у казкі,
І забыцца на крыўды і страхі,
І ўзнімацца вышай і вышай,
Каб абняць увесь свет.

Я лунаў над ляснымі азёрамі,
Над імклівымі аўтастрадамі,
Над комінамі заводаў
І над жытнёвымі нівамі.

Я не ведаў,
Чаго было болей у гэтым палёце —
Утрапення,
Здзіўлення
Ці боскага азарэння,
Знітаванасці з часам
Ці далучэння да вечнасці.

І я не заўважыў,
Як там, унізе,
З няўцямнасцю і пагардай
Зірнуў на мяне
Чалавек з модным кейсам,
Сядаючы ў чорны «мерседэс».
Ён усміхнуўся высакамерна —
І быццам душу мне працяла
Халодная жалезная страла.

Я паляцеў на зямлю,
Сутыкаючыся з хмарамі,
Ранячы рукі асколкамі вясёлкі,
Распалохваючы ў садзе шпакоў...

І вось я стаю на ганку,
Усё яшчэ шчаслівы.

Ды за плячамі ўжо нічога не муляе,
І я не магу даўмецца,
Адкуль у пальцах маіх
Цёплае птушынае пёрка...



Сяброў з гадамі і ў мяне ўсё менее.
Вузее і нізее далягляд.
Паціху аддаляецца Арменія,
І ўжо амаль не бачны Арарат.

Памір маўчыць загадкава-сурова,
Стаіўшыся за межавым пастом.
Даўно не адгукаецца Малдова —
Ні песняю,
Ні споведным лістом.

Сяброўскае спагадлівае слова
Здалёк брыдзе зняможанай хадой.
І нават хлопцы з Кіева і Львова
Цяпер заняты ўласнаю бядой...

Раскідалі,
Растрэслі,
Раздзялілі
Наш пасівелы зладжаны хаўрус
Чужая воля
І чужыя сілы,
Бязлітаснага лёсу землятрус.

Але і ў безнадзейнай паняверцы,
Як у былыя добрыя часы,
Я ўзгадваю асірацелым сэрцам
Сваіх сяброў самотных галасы...



Калі вакол агледзецца ўсур’ёз, —
І ў злодзеяў зусім няроўны лёс.

Адзін крадзе,
Каб накарміць дзяцей.
Другі —
Каб стаць намнога багацей.

І першы пойдзе на гады ў астрог,
Ну а другі адкупіцца, дальбог.

На нарах першы будзе хлеб жаваць.
Другі Канары стане абжываць.

Адзін чахотку прынясе дамоў.
Другі —
Аб «здзелках» тысячы дамоў...

Дык дзе ж тут праўда,
Справядлівасць дзе?
Што́ —
Шчаслівейшы той,
Хто больш крадзе?

Што́ —
Сапраўды няроўна дзеліць лёс
І гэта ўсё надоўга і ўсур’ёз?..



Стаміўся жыць.
Стаміўся ваяваць.
Стаміўся слухаць доўгія прамовы.
Чакаць.
І спадзявацца.
І трываць.
І ўсё — дарма.
Усё — безвынікова.

Не трэба мне ні Лондан, ні Парыж.
Але скажыце,
За віну якую
Павінны мы цягнуць пакутны крыж,
Цярпець сваю затурканасць цяжкую?

Чаму наш край зажураны кішыць
Дзялкамі,
Прайдзісветамі,
Хлусамі
І сярод нас ім так спакойна жыць,
А мы пакорна ўсё прымаем самі?

Няўжо,
Дрыгавічы і крывічы,
Забылі мы ваяцкія падзеі?
Куды ж свае булатныя мячы,
Як сталі памяркоўнымі,
Падзелі?

Хто з жульніцтва для нас саткаў радно?
Чаго спалох за спінамі стаіўся?..

Я нават і пытанні ўжо даўно
Сабе і іншым задаваць стаміўся...



На зямлі даўно святых няма —
Кожны хоць бы трошкі ў нечым грэшны.
І ніякі пост або намаз
Не ачысціць грэшных душ дарэшты.

Кожны з нас нясе —
І ці ж адну? —
Да нябеснай немінучай брамы
Горкую міжвольную віну
Перад Богам і перад сябрамі.

Хто нам скажа,
Ці паспеем мы
Хоць аднойчы стаць перад бажніцай
І ў шчаслівы, ачышчальны міг
Шчыра ўсё прызнаць і павініцца?

Можа,
Нам даруецца пры тым
Нейкая правіннасць ці дзівацтва...
Дзе ўжо лезці ў сваякі святым —
Добрымі людзьмі хаця б застацца...



Была святочнасць.
Быў уздым.
Душа ўзлятала ў паднябессе...
Ды ўсё прайшло,
Як лёгкі дым,
Як незапомненая песня.

Будзённасць сумная прыйшла.
І ўжо нянавісць іклы шчэрыць.
І гвалтам лезуць з-за вугла
Тупое невуцтва і шэрасць.

Для іх настаў шчаслівы час —
Такога не было ніколі:
Касі,
Як свой,
Чужы папас,
Вазі снапы
З чужога поля.

І абжывай на скразняках
Другімі ўробленае ляда,
Абы ва ўчэпістых руках
Была захопленая ўлада.

І дзе ім зразумець,
Што дні
Усё бліжэй вядуць да згубы,

Што ўсіх
Пільнуе з вышыні
Груган галодны,
Вастрадзюбы!..

## Вецер дзяцінства

Ранішні вецер з радзімы малой
Пахне густой баравою смалой.
Пахне аерам
І дзікаю мятай.
Пахне вясковай бацькоўскаю хатай,
Сенам і кменам,
Ячменем і жытам,
Зрубам суседскім
І мёдам разлітым.
Пахне адбеленымі ручнікамі.
Пахне матулінымі рукамі.
Лесам сунічным
І возерам чыстым...
Пахне святым, незабытым дзяцінствам.



Не знаю,
Чым узварушыць душу —
Глынуць віна вясёлага кілішак,
Ці зладзіць спавядальную імшу,
Або схавацца з кніжкаю ў зацішак,
Ці выйсці ў цемру восеньскай начы
Шукаць між дрэваў сцежкі невядомай,
Балюча спатыкацца аб карчы
І толькі ўранні дабрысці да дома...

Хто тут параіць,
Што найлепей мне —
Ці выплакацца на плячы каханай,
Ці патапіць самотнасць у віне
І ўсё стрываць з цяжкой душэўнай ранай,
Ці ірвануць кашулю на грудзях
І кінуцца ў няроўны бой зацята,
Каб,
Загарнуўшыся ў змагарны сцяг,
Ахвярна ўпасці пад прыкладам ката?..

...Ляціць, ляціць зямны маўклівы шар,
Ламаючы арбіты і праменні...
І курчыцца, баліць мая душа
У свеце,
Поўным жаху і зняменні...



Дачка мне ўчора падарыла ўнучку.

Яшчэ адзін маленькі чалавечак
Прыйшоў у свет,
Напоўнены трывогай.
Яшчэ адно маленькае зярнятка
Пасеяна на беларускай ніве
Халоднаю асенняю парой.

Я не паспеў даведацца яшчэ,
Якія ў яе валасы і вочы.
І не пачуў яе слабога плачу.
І вуснамі не палічыў
Яе танюткіх пальчыкаў,
Але
Мне грудзі цёпла сціснула ўзрушэнне
І я адчуў душой і зразумеў:
Зямля на радасць багацейшай стала.

А потым я спалохаўся:
А што
Яе чакае ў гэтым тлумным свеце,
У нашым родным занядбаным краі,
У наш пануры і бурлівы час?
Ці хопіць ёй
Адвечных калыханак,
Баравіковых нерушаў,
Рамонкаў,

І ластавак у вечаровым небе,
І ранішніх туманаў над ракой?
Ці зведае яна
Людскую ласку,
І шчырую сяброўскую спагаду,
І чыстае шчаслівае каханне,
І здрадай не азмрочаную веру,
І гонар за пакутны свой народ?
Ці здолее яна
Хлусню адрынуць,
Ператрываць нястачу і бяссілле,
Узняцца над бядою і адчаем
І неспрыяльны лёс перамагчы?..

Я ж так хачу,
Каб,
Калі прыйдзе час
Мне з ёю назаўсёды развітацца,
Яна сказала мне спакойна:
«Дзед,
Ты за мяне зусім-зусім не бойся.
І за братоў маіх,
Тваіх унукаў.
І за матулю нашу Беларусь.
Мы не дадзім нікому пахаваць
Ні нашу мову,
Ні дзяржаву нашу.
І ўсе твае няздзейсненыя мары
Мы зробім явай...»

Літасцівы Бог,
Дапамажы да гэткае пары
Дажыць
І ёй,
І мне,
І Беларусі!..

*5.09.2003*



Не ведаю,
Хто ў гэтым вінаваты,
Што не іду я з часам у нагу.
Знікаюць неўпрыкмет старыя святы.
Да новых жа прывыкнуць не магу.

Чамусьці не вяртаецца ўзрушэнне
І даўняе ўрачыстае святло,
Калі былі няпоўныя кішэні,
Ды сэрца поўным радасці было.

Усё цяпер нязвычнае,
Не тое —
І дзень інакшы,
І інакшы лад,
І тое, што калісь было святое,
Ніколі ўжо не вернецца назад.

Ды ў рэшце рэшт
І гэтакія страты
Перажыву я ў роднай старане.
Калі ўжо ад мяне забралі святы,
Дык будні ўсё-ткі застаюцца мне.



Мяне агітуюць на ўсе лады,
Хто як умее
І хто як можа,
Які я багаты,
Які малады,
Які я здаровы,
Які я прыгожы.

Паслухаеш іх,
Дык нідзе на зямлі
Няма шчаслівейшага недарэкі,
Каб самі сабой проста ў рукі плылі
З кісельных пагоркаў малочныя рэкі...

Ах, родныя, кіньце.
Суцішце імпэт!
Калі гэта бачылі вы ў цэлым свеце,
Каб быў не абыдзены здзекам паэт,
Каб зайздрасць яго не таптала ў кювеце?

Якое багацце?!
Хіба што адны
Адвечнай жальбой нашаптаныя словы,
Ды роднага шляху ручнік ільняны,
Ды матчыны песні,
Ды ветах вясновы...

І дзе там здароўе,
Калі ўсе гады
І ворагі-злоснікі,
І аднаверцы
Вачэй не спускалі з адчайнай хады
І рвалі на часткі пакутнае сэрца?..

Мяне не хвалюе пустая хвала.
Калі ж спагадаць мне вы мелі на мэце,
Прашу:
Не цягніце мяне з-за стала,
Пакіньце ў спакоі
І зразумейце...



Колькі ні прайшоў дарог і сцежак,
Колькі пералескаў ні схадзіў,
А душу сваю так і не ўсцешыў —
Не знайшоў разгадку даўніх дзіў.

Ці каля Дзвіны,
Ці каля Піны,
Дзе чакаюць шчасця землякі,
Валуны на сонцы грэюць спіны
І маўчаць таемна лазнякі.

Берагуць яны дасюль
Сакрэты,
Ад чаго праз доўгія вякі,
Роднасцю,
Лагоднасцю сагрэты,
Кожны кут загадкавы такі.

Чым ён непаўторны і бясцэнны,
Што сюды,
Да сосен і кляноў,
Да бацькоўскай хаты пяцісценнай
Хочацца вяртацца зноў і зноў?..

Я далей
З надзеяй і трывогай
Крочу па нязведанай зямлі...
Толькі б не канчалася дарога,
Толькі б дзівы даўнія жылі...



Час даўно пераблытаў семафоры і рэйкі,
Пасадзіў нас усіх у свае цягнікі.
І, пакінуўшы родныя хаты і рэкі,
Мы ў нязнаную далеч ляцім нацянькі.

Мы баімся адны на вакзале застацца
І імчым па палях, па лясах, па жыцці.
І мільгаюць,
Мільгаюць за вокнамі станцыі.
І хто ведае,
Дзе каму трэба сысці...



Матулі не трэба ніякіх гасцей —
Абы толькі дзеці бывалі часцей,
Сядалі за стол і мачанку хвалілі
І ў вочы яе заглядалі штохвілі.

Яна ўсё не можа на іх наглядзецца,
Забыла зусім пра нямоглае сэрца.

То спусціцца ў пограб,
То кінецца ў сенцы —
Абы дагадзіць...
Дзе тут думаць аб сэрцы!

А дзеці...
Раскажуць хіба без прынукі,
Ну як там гадуюцца ў горадзе ўнукі,
Як ладзіцца праца,
Чым поўніцца хата?..
Пытанняў заўсёды ў матулі багата...

І што ні кажыце,
Няправільна штосьці,
Калі дзеці дома бываюць
Як госці...



Ва ўсе часы былі і смех, і слёзы.
Ва ўсе часы над пыльным бальшаком
Шумелі разгайданыя бярозы
І віс жаўрук сярэбраным званком.

Ды нашы дні перамянілі далі,
Схавалі смех у змроку хмызнякоў,
Вячыстыя бярозы спілавалі
І патруцілі звонкіх жаўрукоў.

І тут даўно ўжо не блукае посах,
Машыны не імчацца з вецярком,
Чарнеюць пні на ўзбочынах зарослых
І не курыцца пыл над бальшаком.

І ці ўзгадае нехта пра абозы,
Пра тое,
Як у роднай старане
Шумелі разгайданыя бярозы
І жаўранак сярэбраны звінеў?..



Папракай — не папракай
Хоць самога Бога —
Як плыла,
Плыве рака
Даўняю дарогай.

Не мяняе свой назоў
З глыбіні стагоддзяў.
Можа, тысячу разоў
Ты ў яе ўваходзіў.

У віры з гары ныраў,
Клікаў дальні бераг
І на грэбні хваль збіраў
Жменю зор спазнелых...

А яна сабе плыве
Вольна і пявуча
Па каменнях і жарстве
Між бароў і кручаў,
Мкне наперад напрасткі
Плынню маладою,
Акрапляючы вякі
Вечнаю вадою...



Глядзіце:
Д’ябал б’е ў званы,
Святую медзь нахабна будзіць.
І хрысцяцца набожна людзі,
І храму б’юць паклон яны.

А гук паднебны спакваля
Плыве прыглушана і роўна...
У пальцах д’яблавых вяроўка
Заціснута,
Нібы пятля.

Ён сам не ведае,
Чаму
Званы разгойдвае зацята.
А ціхі служка барадаты
Спрабуе памагчы яму.

Званы вызвоньваюць адно,
Як паўтараюць кліч ягоны —
І ўсё грамчэй грымяць праклёны,
А слова Бога не чутно.

І вернікі,
Нібы слупы,
Стаяць,
Не бачачы нічога.

Дык што ж вы хочаце ад Бога?
Ён не глухі і не сляпы.

Ён вас пазбавіць ад віны,
Каб толькі вера не аслабла.
Аднак ці ён даруе д’ябла,
Які нахабна б’е ў званы?..



Не ведаю,
Ці плакаць,
Ці смяяцца,
Калі з трыбун высокіх усур’ёз
Сівыя палітычныя паяцы
Расказваюць пра наш шчаслівы лёс.

Цяжкую даланю кладуць на сэрца.
Размазваюць слязу па барадзе...
Быць можа,
Ім і сапраўды здаецца,
Што ўсім жывецца добра як нідзе.

А я,
З душы зганяючы гаркоту,
Разгублена спрабую разгадаць,
Чаму тады ў суседа каля плоту
Асот буяе,
А не рэзеда.
І хто мне расталкуе адмыслова,
Што мы адной краінаю жывём
І так усё дагледжана на словах,
А ў вёсках прызбы зараслі быллём...



Хто мне скажа,
Па якому праву
Нехта выдумаў такі закон,
Што павінен нас на пераправу
Везці толькі з нашай стайні конь?

Ці таму,
Што ён іржэ ад ранку
І калматай грываю трасе,
Ці таму,
Што лёгкую фурманку
Так імкліва па шашы нясе?

Наравісты і нецягавіты,
Як ён зойдзе ў бурную раку?
Што, калі бруёй з дарогі збіты,
Перакуліць воз на быстраку?

Можа,
Лепей не шукаць аравай,
Дзе вада вірлівей,
Дзе плытчэй,
А перад нялёгкай пераправай
Памяняць каня як найхутчэй?..



Набудавалі храмаў на зямлі.
Забыліся паставіць храмы ў душах.
І вольны дух людскі
Нахабна душаць
Пад гул званоў
Зямныя каралі.

Жалеза не шкадуюць для крыжоў,
Для купалоў —
Сусальнай пазалоты.
Да Бога сталі моднымі залёты
З уладаю заручаных мужоў.

Для імі ж панявечаных капліц
Яны гатовы траляваць бярвенне,
Каб Божае святое блаславенне
Багатымі дарункамі купіць.

Карціць ім
Змыць ахвяр нявінных кроў,
Бо вера ў моц правадыроў аслабла.
І вось яны,
Былыя служкі д'ябла,
Цалуюць сёння рукі святароў.

Яны гатовы ўжо спраўляць пасты
І прагнуць дачакацца ласкі Божай.

І іх зусім, напэўна, не трывожыць,
Што ў свеце поўна алтароў прыгожых
І мноства душ няшчырых і пустых...



Усе гады,
На ўсіх дарогах
І ў ясны час,
І ў дні пакут
Я ўдзячны і бацькам, і Богу
За мне падараваны кут.

З далёкіх сноў дзіцячых веру,
Нібы ў наканаваны лёс,
У край чабору і аеру,
У край чаромхі і бяроз.

Не пачувалася ніколі
Мая душа такой жывой,
Як у вячэрнім жытнім полі
Ці на паляне баравой.

І ў экзатычнай заграніцы
Шукаў я самых звонкіх слоў
Вадзе з матулінай крыніцы
І мёду з бацькавых вуллёў.

Тут я хаваўся пад абрывам,
Глытаў кастроў начлежных дым
І быў загадкава-шчаслівым
І безнадзейна-маладым.

Тут дрэву кожнаму і зверу
Я рады,

Што са мной раслі...
І аж да дзён апошніх веру
Спрадвечнай полацкай зямлі...



Родная мая матуля-мова!
Колькі ж табе нудзіцца ў журбе?
Кожны невук і цяпер гатовы
Радасна паздзекавацца з цябе.

Вось ужо сур’ёзна дыскутуе
Пешчаная мудрая мадам,
Як далей адсунуць мову тую,
Што сам Бог уклаў у вусны нам.

Жыць ёй тут няўтульна і гаротна,
У краі вавёрак і буслоў,
Бо яна даўно і незваротна
Адраклася ад тутэйшых слоў.

Так вось і пакутуе,
Чужая
Сярод васількоў і чаратоў,
А чамусьці ўсё не ад’язджае
Да старэйшых дарагіх братоў.

Як яна турбуецца, нябога,
Што ад мовы — ўся яе бяда!..
Ну а мы не крыўдзімся на Бога,
Што ён нам такую мову даў.

Ёю душы нашыя лагодзім
І пахмурным, і пагодным днём.
З ёю пражылі ўжо шмат стагоддзяў
І яшчэ не меней пражывём.

## Ідзе беларус!

Мне бачыцца ў сённяшняй здраднай імжы,
Якой мы не згонім ніяк,
У новага дня
На далёкай мяжы
Ідзе нам насустрач юнак.

Вядзе за сабой ён натхнёны хаўрус,
Такі ж,
Як і сам,
Малады.
Яму я гукаю:
— Ідзі, беларус,
Не сцішвай змагарнай хады!

На нівах,
Дзе ўсё здратавала брыда,
Рупліва збірай камяні
І тых,
Хто святую Радзіму прадаў,
На векі вякоў пракляні!

## **Развітанне**

*Паэма*

Прамень прабіўся праз фіранку,
Успырхнуў матыльком ля шчок.
І зноў нясцерпна,
Як шторанку,
Заныла правае плячо.

Рукою варухнуў няўклюдна —
Пякучай хваляю агню
Знаёмы боль,
Тупы і нудны,
Паплыў уніз,
У даланю.

Не адганяючы трывогі —
Ну як ты будзеш без яе? —
Спусціў на дол слабыя ногі,
Цяжкія,
Быццам не свае.

У непазбыўнай даўняй скрусе
Прыгубіў з кубка цёплы сок
І горка, зморана ўсміхнуўся:
«Ну што, дажыўся, Каласок?

Лясныя раннія прагулкі
Цяпер ужо не для цябе.
Ні парашкі

І ні пігулкі
Не дапамогуць пры хадзьбе.

Відаць, прайшоў свае шляхі ўсе
І вось цяпер,
Як ні круці, —
Прыстаў,
Здарожыўся,
Знасіўся,
Ушчэнт знядужаў у жыцці...»

Абвёў пакой панылым вокам.
Нямогласць трохі адлягла.
І ён ступіў
Няспешным крокам
Ад ложка
Проста да стала.

Там між папер ляжала ўпотай,
Перапісаная як след,
Яго бяссонная турбота —
Апошні самы запавет.

Ён столькі тут сядзеў у крэсле
На адзіноце ў цішыні,
Спакойных слоў шукаў
І крэсліў,
Душу паліў,
Як на агні.

Яму нястрымана карцела,
Не азіраючыся больш,
Гукнуць
Разгневана і смела
Пра свой галоўны самы боль.

Пра клопат,
Што важней,
Чым вершы,
Чым здрадлівы фатальны лёс,
Пакутны самы,
Самы першы,
Які з гадамі ў сэрцы рос.

Пра той,
Што не дарыў спакою
Над Нёманам і на Пцічы,
І прыгнятаў віной цяжкою,
Ад дум не даючы ўцячы.

Ён ліст той,
Роспачна-трывожны,
Чытаў амаль што па складах
І добра ведаў,
Што няможна
Казаць таго,
Што ён складаў.

Натужна сцішваў свой характар,
Каб абмінуць сілкі няўдач,

Быў сам і цэнзар,
І рэдактар,
І недаверлівы чытач.

І вось разгубленасць, і веру,
І недаўменне,
І спалох
Паклаў радкамі на паперу
Разважліва,
Як толькі змог.

І хоць не здолела атрэсці
З душы ўсіх дум яго
Рука,
Ён цвёрда вырашыў
Нарэшце
Аднесці ліст свой у ЦК.

Усё ж там людзі не чужыя —
З-пад Прыпяці і з-за Дзвіны,
Што краю роднаму служылі,
Калі глыталі дым вайны.

Хоць не прымаў ён без аглядкі
Іх кожны заклік і парыў,
Але ж яны ўсе білі ў ладкі,
Як ён з трыбуны гаварыў.

Тады ён заклікаў
Каменне

Прыбраць з палёў і з-пад бяроз.
Няўжо ж іх усхвалюе меней
Гаротнай нашай мовы лёс?..

У шафе адшукаў няўмела
Стары святочны свой пінжак.
І раптам сэрца зашчымела,
Ажно ў грудзях прачнуўся жах.

За край стала
Рукою млявай
Схапіўся сутаргава:
«Жыць,
Каб шлях зямны
Галоўнай справай,
Лістом апошнім завяршыць!»

Спусціўся ўніз,
І ўжо на ганку,
Нібы няведама чаго,
Прыпомніў нечакана Янку —
Сабрата вечнага свайго.

*«Не папракай аглядкаю старэчай,*
*Даруй табе знаёмую жуду...*
*Іду вось да начальства на сустрэчу.*
*Як на галгофу новую іду.*

*Мне нейкі прышлы злыдзень у двубоі,*
*Глядзіш,*

*І галаву ссячэ з плячэй.*
*Калі б было нас,*
*Мілы Янка,*
*Двое,*
*Ах, як бы мне было цяпер лягчэй!*

*А нас не раз ілбамі сутыкалі*
*Бяздарныя, дурныя махляры,*
*З хлусні і плётак нам цянёты ткалі,*
*Каб мы ў іх спруцянелі без пары!*

*Дзялілі хітра,*
*Хто другі,*
*Хто першы,*
*Чый прыгажэйшы і гучнейшы спеў.*
*А мы*
*Складалі Бацькаўшчыне вершы,*
*Як хто сумеў*
*І колькі хто паспеў.*

*І саграе душу мне спадзяванка,*
*Што і табе хаўрус наш даўні люб:*
*Заўсёды побач —*
*Дзе Якуб, там Янка,*
*Заўсёды разам —*
*Янка і Якуб.*

*І ратавалі нас парой суровай*
*Не хваласпеў*
*І ззянне медаля,*

*А матчына, святая наша мова*
*І родная, спрадвечная зямля.*

*І я зраблю ўсё,*
*Янка,*
*Дасканала,*
*Прымус ператрываю і дакор,*
*Каб толькі песня наша не сканала,*
*Каб наш народ бязмоўным не памёр...»*

Перш чым пайсці з двара да весніц,
Спыніўся ён каля дубкоў,
Якія надвячоркам веснім
Садзіў калісь сваёй рукой.

Ах, як яны павырасталі!
І не заўважыў ён,
Калі
Яны шырокімі лістамі
Падворак ахінуць змаглі.

І вось яны зялёнай кронай
Гайдаюць сонца зноў і зноў
Над мудрай старасцю ягонай,
Над светлай сталасцю сыноў.

Ім столькі жыць яшчэ на свеце,
Маўчаць ля гаманкіх двароў
І птушанят
У сонным веццы
Хаваць ад слоты і вятроў!

Усё,
Што толькі будзе з намі,
Ім несці ў памяці сваёй.
Яны зрасліся каранямі
Навекі з матухнай-зямлёй.

Нікуды іх не перасадзіш.
Ім тут шумець і паміраць,
У гэтым невялікім садзе
Ля сціплай хаты песняра...

І ад жытнёвага калосся,
Што шапацела каля сцен,
Знясілена,
Яму здалося,
Знаёмы голас даляцеў.

Той,
Не забыты і не кляты,
Але не чуты ўжо даўно,
Прыглушаны,
Панылы,
Братаў,
Як і не родны ўсё адно...

*«Я думаю,*
*Міхась,*
*Ужо ніколі*
*З табой сцяжына не звядзе мяне.*
*Так і адыдзем мы па Божай волі*

*Я тут,*
*Ты — там, у дальняй старане.*

*Ажно за мора*
*Ад бацькоўскай хаты*
*Цябе віхор выгнанніцкі занёс.*
*І я не знаю,*
*Хто больш вінаваты:*
*Вайна,*
*Ці ўлада,*
*Ці гаротны лёс.*

*А ты ж быў так не толькі мне патрэбны*
*У куламесе гарапашных дзён!*
*Павер,*
*Міхась,*
*Што мне пільчак твой зрэбны*
*Быў з незабытай далечы відзён.*

*Я марыў,*
*Што не раз яшчэ*
*Ля Нёмна*
*Мы вогнішча распалім для дваіх*
*І ў мройным небе,*
*Калі стане цёмна,*
*Палічым зоркі ўсіх братоў сваіх.*

*І пасядзім яшчэ з табой на лаўцы*
*Сярод дзядзькоў і гаманкіх кабет,*

*І шчыра нам развяжуць мікалаўцы*
*Дзіравы мех сваіх вясковых бед.*

*Твая хаціна спраўная былая*
*Гібее,*
*Як самотная ўдава...*
*Ніколі,*
*Брат мой,*
*Я цябе не лаяў,*
*Адно —*
*Да слёз бяссільных —*
*Шкадаваў.*

*А ты,*
*Пачуўшы аб знаёмым імі,*
*Няўжо выцягваў крыўды за рукаў*
*І званнямі высокімі маімі*
*Мяне не раз балюча папракаў?*

*Не пазірай на маю славу скоса,*
*Не вер,*
*Што я ўсяму,*
*Што маю,*
*Рад.*
*Я і сягоння*
*Той жа самы Костусь,*
*Твой аднадумца*
*І старэйшы брат.*

*Не выракся*
*Ні бацькавага роду,*
*Ні росных сцежак*
*І ні родных ніў.*
*І мову —*
*Найсвяцейшы скарб народу —*
*Ад забыцця і здзеку бараніў...»*

Мінуў дубы хадой ляною
І раптам прыпыніўся ён,
Вачэй крануўся даланёю,
Як адагнаў кароткі сон.

Такое з ім ужо бывала,
Калі згарала вера ўся, —
З'яўляўся, як жывы, Купала
І чуўся голас Міхася.

Вось і сягоння
Недарэмна
Яны азваліся ў цішы
З ягонай памяці нядрэмнай,
З ягонай стомленай душы.

Ён іх паклікаў як дарадцаў
З халоднай далечы гадоў
Не для таго,
Каб апраўдацца,
А каб сплаціць свой вечны доўг.

Ён ведаў:
Будзе зразумелы
Для іх у сумятні любой
Ягоны покліч анямелы,
Ягоны невылечны боль.

*«Каб жылі мы адмыслова*
*Між сваіх і чужакоў,*
*Бог нам даў навекі мову*
*Продкаў нашых і бацькоў,*

*Каб яе мы годна неслі*
*Па зямлі і над зямлёй,*
*Каб на ёй складалі песні*
*І маліліся на ёй,*

*Каб была яна апраткай*
*Нашай змучанай душы,*
*Каб ніколі мёртвай хваткай*
*Лёс яе не задушыў,*

*Каб звінела і квітнела,*
*Не згіналася ў бядзе*
*І на ўсіх глядзела смела*
*У суседскай грамадзе...*

*Каб плыла чароўнай паннай*
*Да музык і спевакоў*
*У сукенцы вышыванай,*
*У вяночку з васількоў...*

*Дык адкуль чума-навала*
*Прыпаўзла на наш парог —*
*І нямілай мова стала,*
*Што ў вяках народ збярог?*

*І чаму ў сваіх палацах*
*Новай явы каралі*
*Слова роднага цурацца*
*Талакою пачалі?*

*Не бяруць яго ў дарогу,*
*Не вядуць да мудрых дум,*
*Аддалі даўно,*
*Нябогу,*
*Розным невукам на глум.*

*Гарадскія цараняты,*
*Местачковыя панкі*
*Пляжаць так яго зацята,*
*Што наўкол —*
*Адны пянькі.*

*Да чаго змаглі дажыцца —*
*Верыць сілы не стае:*
*Нас тапталі чужаніцы,*
*А цяпер —*
*Таўкуць свае.*

*Свет разгублена ўздыхае,*
*Калі ўлада ў барацьбе,*

*Нібы мачыха ліхая,*
*Мову матчыну дзяўбе.*

*А яна ж дзядам служыла*
*І паслужыць нам яшчэ,*
*Бо,*
*Нібыта кроў па жылах,*
*Праз усё жыццё цячэ.*

*І калі сканаюць зыкі,*
*Што луналі столькі год,*
*Дык навошта без'языкі*
*І бяспамятны народ?*

*Хто пакланіцца святыням,*
*Хто ўзнясе ў зеніт крыло?..*
*Знікне мова —*
*Мы ўсе згінем,*
*Як бы нас і не было...»*

Ён ажывіўся ад эмоцый,
Як быццам скінуў груз з плячэй
І ад зямлі набраўся моцы,
Ступіў адчайней і ямчэй.

Здаецца,
Нават азірнуўся
На ўсё,
Што выйшла з-пад пяра,
Адкінуў сум

І схамянуўся,
Як быццам выдыхнуў:
— Пара!..

*13 жніўня 1956 года, вярнуўшыся з ЦК КПБ, куды адносіў свой ліст у абарону беларускай мовы, Якуб Колас памёр.*



Ох, як часта вы,
Зямныя суддзі,
Злосна мне ўсміхаецеся ўслед,
Грозна папракаеце ў аблудзе,
Прадракаеце:
«Глядзі, паэт!»

Толькі што́ мне вашыя падказкі,
Што́ мне ваш круты дзяржаўны чын,
Калі мне сам Бог,
З высокай ласкі,
Песню беларускую ўручыў?

Можа,
Вам яна здаецца кволай,
Ціхаю —
Так лёгка задушыць, —
Ды яна
Без вашага дазволу
Вылятае ў свет з маёй душы.

І жыве надзея ў кожным слове,
Тая,
Што ніхто забіць не змог...
Так што не ўхмыляйцеся,
Панове,
Лепей пазайздросце,
Далібог.



Зірнеш здаволена наўкруг —
Амаль што райская карціна:
Прыветна зелянее луг
І ціха пасвіцца скаціна.

Сляпнеча кружыцца траха.
Курыцца вогнішча ля ўзмежка.
Схавана ў вуснах пастуха
Лянівая, скупая ўсмешка.

Сумуе пуга пад нагой.
Лагодаю прыўзняты бровы...
Але здалёку
На яго
Глядзяць спалохана каровы.

Яны не здолелі забыць,
Хоць дзікі боль і сціх імгненна,
Як страшна ён умее біць,
Аж на губах бялее пена.

Ён біў штораз усё ямчэй
І сыпаў новыя пагрозы.
У іх каціліся з вачэй
Вялікія, рудыя слёзы...

Не вабіць іх суседскі луг,
Не кліча збажына гасцінна...

Чым больш бязлітасны пастух,
Тым больш слухмяная скаціна...

## Канец лета

Адгрукацелі навальніцы.
Адбарабанілі дажджы.
І над ракой
З-пад вербаў ніцых
Ужо не ўспырхваюць стрыжы.

Уперамежку з дзікай мятай
Прывяла ў садзе рэзеда.
Нахохленыя бусляняты
Зляцелі з цеснага гнязда.

І першы жоўты ліст
Вятрыска
З высокіх шапаткіх бяроз,
Як напамін аб слоце блізкай,
На сцежку палявую строс.



Так мне хочацца ціха,
Бесклапотна пажыць,
Між агнёў не круціцца,
Між руін не кружыць,
У натопленай хатцы
Пераседзець дажджы
І вясёла ўсміхацца
І сваім, і чужым.

І забыцца патроху
На счаўрэлы падман.
Толькі сее трывогу
Пачарнелы экран.

І ўжо рыскае недзе
Дзікі статак гарыл,
І ўжо ў блізкіх суседзяў
Дом абжыты гарыць,
Шавінісцкая завязь
Тоіць помсты плады,
Прарастае нянавісць
Праз баі і гады.
І ў набоі ўжо ліха
Забівае пыжы...
...А хацелася ж ціха,
Бесклапотна пажыць...



Хаваю ад зайздросных рук
Былых гадоў тугую повязь.
Пасля пакутлівых разлук
Спяшаю ў родны край на споведзь.

Хачу наплакацца над тым,
Што ўжо не вернецца ніколі,
Што на шляху маім крутым
Рассыпана драбкамі солі.

Ні з кім дзяліцца не магу
Віною горкай і грахамі.
Хай застануся я ў даўгу
За ўсіх адзін перад бацькамі.

У хату матчыну прыйду
Шукаць між сцен старыя цені
І за парогам упаду
Пад абразамі на калені.

Хай будуць дзверы на замку,
Пакуль з душы не сыдуць слёзы.
Хай пастаяць усе ўбаку —
Сябры,
Суседзі
І бярозы...



Раней сустракаліся на вяселлях.
Цяпер сустракаемся на памінках.
Самыя кучаравыя аблыселі.
Самыя непаседлівыя панікл.

Хоць не ва ўсіх пацяжэлі кішэні,
Не ўсе абмінулі службовыя мелі,
Спрэчкі застольныя пацішэлі,
Жарты сяброўскія палагаднелі.

Тое,
Што некалі загадалі,
Сонна сплыло,
Як вясновыя воды.
Пэўна,
Яно так бывае з гадамі.
Можа,
Яно гэтак будзе заўсёды.

Перамалолі ілюзіяў зерне
Жорны штодзённай пакутлівай працы...
Што ж, як ніхто маладосці не верне...
Толькі б было яшчэ з кім сустракацца...



Млечны шлях пагас.
Адцвілі сады.
Азірнуцца час
На свае гады.

Прыпазнелы госць,
Памаўчы,
Пастой,
Прыгадай,
Што ёсць
На зямлі святой,
За дабро ці зло
Ты стаяў сцяной,
Што з раллі ўзышло
За тваёй спіной...

Сына нарадзіў,
Калыханку склаў,
Дрэва пасадзіў
І зрабіў сто спраў,
Свету паглядзеў
І сяброў займеў,
Край свой у бядзе
Песціў,
Як умеў.

Можна б завяршыць
Ціха

Шлях жыцця.
Ды няма ў душы
Шчасця пачуцця.

Мой зямны пасеў
Сціплы,
Далібог —
Столькі не паспеў,
Столькі я не змог!..



Пэўна,
Так прызвычаілі нас,
Што мы ўсе ў мітусні парыванняў
На пасля адкладалі ўвесь час
Словы шчырых сяброўскіх прызнанняў.

Пачакаем,
Яшчэ не пара —
Разважалі цвяроза і стала.
А ўжо восень стаіць ля двара
І сяброў засталося так мала.

І мы лаем сябе зноў і зноў
Ля халоднай шпітальнай пасцелі:
Незвычайных шукаючы слоў,
Мы звычайных сказаць не паспелі.



Не надрывайце мне душу
Сваёю песняю панылай,
А то і я загалашу,
Нібы над бацькавай магілай.

Паверце,
Моташна няўсцерп
Мне ў гэтым свеце непрытульным,
Дзе стыне месячыка серп
Над цёмнай хатаю матулі,
Дзе пад алешынамі ніцымі
Заброснела ў рачулкі дно,
Дзе за глухімі аканіцамі
Даўно ўжо песень не чутно...

І, нібы ластаўка сляпая,
Надзея
Сны крылом сячэ.
Мне суму і свайго хапае.
Не дабаўляйце ж вы яшчэ...



А жыццё зусім кароткае.
Не заўважыш незнарок,
Што вось там,
За павароткаю,
Ціша вечная і змрок,
Ні зайздроснікаў,
Ні ворагаў,
Ні нянавісці сляпой,
Супакой для сэрца хворага
І для думак супакой.

Ну а тут —
Бясконца цягнецца
Будняў пыльная шаша.
Ад натугі рвуцца цягліцы,
Ад пакут шчыміць душа.
І карціць адно —
Пажаліцца,
Адпачыць пасля турбот...

Але хай не набліжаецца
Той,
Апошні паварот...



Прадчуванне расстання
Мне вярэдзіць душу.
І ў змяркання,
І ў рання
Я працягу прашу.

Не хачу,
Каб з калосся
Вырастала быллё.
Хай бы ўсё засталося,
Што са мною было,
Што на ростанях звыкла
Вандравала са мной
І бясследна не знікла
У юдолі зямной.

Не хачу я
Ні грыўняў,
Ні чужых гарадоў —
Хай бы лёс падарыў мне
Трохі новых гадоў,
І змярканняў,
І ранняў,
І яшчэ —
Хоць на міг —
Маладых парыванняў
І надзей маладых...



Гэта няпраўда,
Што ўсё жыццё —
Проста дарога да смерці.
І выкрасліць можна мае гады,
І высекчы можна мае сады,
І выкінуць можна мае плады,
І лёгка можна мае сляды
На гэтай дарозе сцерці.

Гэта няпраўда,
Мае сябры.

Вы ж разумееце самі:
Дрэвы пасаджаныя
Будуць расці,
Кветкі пасеяныя
Будуць цвісці,
Птушкі паселеныя
Будуць спяваць —
А значыць,
Я буду з вамі...



Я ўжо адвык падвохаў апасацца
І не чакаю ад нябёс дароў.
Жыву сабе памалу,
Без сенсацый
І слухаюся мудрых дактароў.

Цярплю з усімі разам
І бядую,
Для выжывання не шкадую жыл.
Паветраныя замкі не будую,
Ну а зямных,
Відаць,
Не заслужыў.

Куды мне там за маладымі ўгнацца!
Навошта ім мой старамодны спеў,
Калі ні ўзнагарод,
Ні асігнацый
Ён назапасіць так і не паспеў?..

І хоць даймае стомленасць цяжкая
І не знайсці для радасці дражджэй,
Я на сваё жыццё не наракаю,
Бо ведаю:
Другім яшчэ цяжэй...



Калі б я меў на ўсё адказ,
Дык свет бы агарошваў,
Не адыходзіў бы ад кас
Без ладнай сумы грошаў,
Для прыгажунь не шкадаваў
Шыкоўных самых руж бы
І ўсім навокал раздаваў
Цяпло ад царскай дружбы...

Ды казыруся я дарма.
Усё будзённа-проста:
Ні грошай у мяне няма,
Ні царскага сяброўства.

І хто ж у наш бязладны час
Дапамагаць мне стане?..

О, каб я меў на ўсё адказ!
А то —
Адны пытанні...



Вось і неба раіцца са мною,
Сыпле зоркі ў прыгаршчы мае.
І ўздыхае глуха за спіною
Хвойнік,
Што сцяною паўстае.

Чым мне ад няшчасцяў засланіцца,
Дзе прычаліць лёсу карабель?
Адляцела ўжо мая сініца,
Затрымаўся недзе журавель.

Мару я аб прыстані далёкай,
Аб лагодным шуме чаратоў.
І шукаю
Невідушчым вокам
Сцежку да пахіленых жытоў...



Мой ціхі полацкі зямляк,
Які лічыўся сябрам верным,
Цяпер,
Сустрэўшыся няўзнак,
Убок свой твар старанна верне.

Яму я антураж псую,
Нібы хвастаты чорт з рагамі.
Пасаду хлебную сваю
Ён ад мяне аберагае.

Што ж,
У жыцці ўсё можа быць —
І здрада,
І расчараванне,
Былое хоча ён забыць
У фарысейскім шчыраванні.

А я з адданасцю святой
У маладосць ірвуся ў скрусе —
Свой твар абмыю Палатой
І на Сафійку памалюся...



Нішчымныя чаркі і шкваркі.
Балотных туманаў агні.
Дурныя дзяржаўныя сваркі
І пеннае мора хлусні.

Пакора ўсіх нас атруціла
І душы скруціла вузлом.
Здаецца,
Не знойдзецца сіла,
Каб зло наша зрынуць на злом.

Так хочацца выйсці адразу
З халодных ахоўных муроў...
Вось толькі ці варта адказу
Чакаць ад чужых ваяроў?..



Прачнуўшыся ў шпітальнай цішыні,
Я звыклы свет нанова адкрываю:
За вокнамі —
Світальныя агні
І гулкі грукат першага трамвая.

Яшчэ не прычакаўшы дактароў,
Нясмела і шчасліва адзначаю:
У скронях несціхана б’ецца кроў
І сэрца вызваляецца з адчаю.

Густое сонца плавіць сіняву.
І неба паліняла рудзее...
І я гукаю радасна:
— Жыву!
«І буду жыць!» —
Шапчу сабе з надзеяй.



*Былому калегу-*
*літаратару*

Ты так хацеў бы,
Ягамосць,
Усім давесці не на жарты,
Што нас няма.
А мы ўсё ж ёсць
І для людзей чагосьці варты.

Пра нас даўно ты ні гу-гу.
Ды памяць цепліцца жывая.
І песні нашыя спяваюць,
І кнігі нашы берагуць.

І вінаватыя не мы,
Што не вядуць цябе ў палацы,
Што ў крамах згорблена пыляцца
Твае шыкоўныя тамы.

Хоць не вылазіш ты з экрана,
Наіўна дзелячы Парнас,
Павер мне,
Позна або рана
Закончыцца твой зорны час.

Тады перад табой,
Знямелым,
Адкрыецца святое штосьць.

І стане ўрэшце зразумелым,
Каго няма,
А хто ўсё ж ёсць.



Нахабствам зла пераляканы,
Ратуючы ад бедаў свет,
«Дабру быць трэба з кулакамі!» —
Аднойчы выгукнуў паэт.

Ды ў бітвах вечных
Ці лакальных
Даўно заўважыў я адно:
Усе махаюць кулакамі,
Дабра вось толькі не відно...



Я не хачу ні зайздрасці,
Ні злосці.
І кампрамісаў хітрых не хачу.
Хто ведае,
Мне колькі засталося
Па свеце несці кволую свячу.

Яна,
Быць можа,
Ціха дагарае,
На дол сцякае кроплямі цяпла,
Як песня паўзабытая, старая,
Што заблукала ў лесе ля сяла.

Хто скажа,
На якой глухой сцяжынцы
Я раптам спатыкнуся незнарок —
І мой агеньчык,
Як валошка ў жыце,
Абвяне і бяссільна кане ў змрок.



Ідуць паэты пачкамі —
Дэбютаў паласа, —
Але няма
Ні Панчанкі,
Ні Танка,
Ні Сыса.

Усе таленавітыя,
Не схібілі нідзе.
Ды толькі з іх малітвамі
У храм ніхто не йдзе.

Не лечаць,
Як ні торгайся,
Духоўнай глухаты
Ні іхнія перформансы,
Ні іхнія хіты.

І я крычу запальчыва,
Не ведаю,
Каму:
— Ну што ж вы, хлопцы,
Пачкамі?
Вы б лепш па аднаму.
Глядзіш,
Тады і трапяцца
Між новых удальцоў
І Куляшоў з Астапенкам,
І з Пысіным Стральцоў...



Вось і да нас прыходзіць горкі час,
Калі сябры ўсё больш ідуць ад нас,
Ступаюць за туманны далягляд,
Адкуль ніхто не вернецца назад.

Не хочацца змірыцца аніяк,
Што гэта —
І твайго старэння знак,
І што жыцця бязлітасны закон
Ужо стаіць каля тваіх акон.

Нядаўна ўсё было:
І тлум,
І смех,
І развітанне позняе наспех,
І поціск рук,
І позірк малады...
А ўжо лісты кладуцца на сляды,
І ў хаце,
Дзе бываў у сябра ты,
Збірае пыл ягоны стол пусты,
А на дзвярах ужо вісіць замок
І родны голас назаўжды замоўк...

Нічога немагчыма памяняць...
І мы сяброў прыходзім памінаць,
І ўспамінаем добрае ўвесь час,
Каб некалі ўзгадалі і пра нас...

## Аклікаю...

*Памяці*
*Валянціна Болтача*

Ніяк не магу прывыкнуць,
Што побач яго няма.
Стараюся часам аклікнуць,
Спахопліваюся:
Дарма.

Над стылай ягонай магілай
Стаў месячык зоркі нізаць.
Зямной і нябеснаю сілай
Яго ўжо не вернеш назад.

А дрэмлюць яшчэ пад прысакам
Асеннія нашы кастры.
І голас ягоны над Мінскам
На золку праносяць вятры.

Ды ў слухаўцы тэлефоннай —
Начное маўчанне жуды.
Да чуйнай душы ягонай
Абрэзаны правады.

І глухнуць,
Як ні прыгадвай,
Кінутыя наспех
Парады яго

І спагада
Ці проста знаёмы смех.

І роспач тупымі клыкамі
Мне сэрца ірве штораз.
А я ўсё яго аклікаю
І ўпарта чакаю адказ...



Хоць сталі ўсе мы даўно дарослымі,
Нас казка кліча красой жывой —
Паляна з соснамі і бярозкамі
І роем мятлікаў над травой.

Яна чаруе,
Ажно не верыцца,
Як і калісьці, у даўні час:
Уся — у смолках,
Уся — у верасе.
Адно што вырас высокі вяз.

Шумяць вяршаліны пад аблокамі.
Мурашкі корпаюцца ў траве...
Даўно дзяцінства прайшло,
Далёкае,
А казка нашая ўсё жыве...



Я недарма слабыя сілы
З надзеяй тайнаю бярог,
Каб зноў прыйсці ў наш дом астылы,
На мной пакінуты парог.

Як нечужога пагарэльца,
Ты ўсё ж мяне не прагані
І хоць бы
Памяццю
Пагрэцца
Дай пры тваім скупым агні.

Павер,
Мне трэба так нямнога —
Каб ты мне рукі падала
І хоць бы трошачкі
Былога
І незабытага цяпла...



Чаго гэтак сумна кувае зязюля на ўзлессі,
Чаго так спалохана лічыць мае і чужыя гады?..
Гады ўжо мінулі.
Іх вецер бяздомны закрэсліў,
І хваля рачная ўжо іх не прыкоціць сюды.

Я іх не шкадую,
Вярнуцца з былога не клічу.
Прайшлі,
Праляцелі,
Махнулі крылом маладым,
Пакінулі ў песні
І ў небе маім навальнічным
Дзве познія зоркі
І восеньскіх вогнішчаў дым.

А што там наперадзе —
Ціхая старасць,
Ці куля,
Ці свечкі лагоды,
Ці зайздрасці чорнай нажы,
Ты мне не гадай,
Не старайся дарэмна,
Зязюля.
Ты некаму іншаму паваражы...



Мы ўрэшце ўсе адыдзем —
Я і ты —
У незямное царства нематы,
Адкуль ніхто не вернецца назад.
І будзем там —
Без званняў і пасад —
Нанова прыглядацца да ўсяго:
Былога,
Незабытага,
Таго,
Чаго ўжо ні паправіць, ні змяніць,
І там ніхто не здолее зманіць.

Ён збудзецца,
Той непазбежны цуд,
Калі паклічуць нас на Боскі суд
І ўрэшце праўда —
Хочаш ты ці не —
Адкрыта ў вочы кожнаму зірне.

Хоць там пагроз не прагучыць зусім,
Ты сам сабе прызнаешся ва ўсім,
Сам назавеш сумленна ўсё як ёсць —
І страх,
І зайздрасць,
І хлусню,
І злосць.
І не папросіш літасці,

Бо ты
З дзяцінства чуў пра гэты суд святы...

Дык дай нам Бог,
Нібыта пры жыцці,
І там да сябра смела падысці!..



Чаго ты плачаш,
Бедная душа?
Чаго баліш нясцерпна і няспынна?
Здаецца,
Столькі ўсякага прайшла,
Што прыцярпецца да пакут павінна.

Хіба хоць трохі ёсць твая віна,
Што белы свет драбнее і люцее,
Што раптам чорна выбухне вайна
І прападзе апошняя надзея?..

Яно, быць можа, іншым і няўцям,
Як гарт
Чужыя беды падкасілі...
Вось і баліш —
Ад гэткага жыцця.
І плачаш —
Ад трывогі і бяссілля...



Ты, горад мой,
Даруй мне,
Што кожнаю вясной
Ірвуся я
Да руні,
Да засені лясной.

Хоць ты даўно любімым
Прыстанішчам мне стаў,
Дарогамі любымі
Бягу да першых траў,
Дзе спіць на кожным дрэве
Шпачыных крылаў шум,
Дзе мне вятрыска грэе
Вясковую душу...



Не шукаю адмыслова,
Не прыладжваю ў радку —
Да мяне прыходзіць слова,
Сам не ведаю,
Адкуль.

Без пакутлівага болю,
Без выседжвання ў цішы,
Проста так,
Само сабою,
Раптам выпырхне з душы.

І пасля я сам здзіўлюся,
Як,
Бяспамяцтву на зло,
Ці ад казак,
Ці ад гусляў,
Ці ад сноў
Яно прыйшло.

І разгадваць буду вечна,
Хто мне болей дапамог —
Ці то вецер,
Ці то вечар,
Ці то маці,
Ці то Бог...



Юныя яршыстыя калегі!
Прытрымайце трошкі ваш запал,
Покуль ад абраз не акалелі
Тыя ўсе,
Хто ў памяць вам запаў.

Учарашніх зорак не тушыце,
Не хавайце іх за туманы —
Проста напішыце,
Напішыце
Цікавей і лепей,
Чым яны.

Не кляніце іх былую славу,
Не скідайце з помнікаў на дно.
Побач на адну і тую ж лаву
Сядзеце вы з імі заадно...

Я на вас злараднасць не гадую,
Не луджу пад звон старую медзь.
І зласлівасць вашу маладую
Паспрабую нават зразумець.

Вы ж таго бяздумна не чапайце,
Што святым лічылася раней.
Пачакайце трохі,
Пачакайце —
Ваш запал таксама праміне...



Прытармазі, браток, свой гнеў
Да тых,
Што пра цябе забылі —
І ў нашым сённяшнім тубыллі
Ты адзінокі,
Як сугней.

Ты ж вельмі гэткага хацеў —
Каб побач не было нікога,
Каб да цябе,
Нібы да Бога,
Адно што хваласпеў ляцеў.

Ты ўзносіў свой высокі лоб
Сярод сяброў сівых і лысых,
Нічым ты з імі не дзяліўся
І пад сябе заўсёды гроб.

І вось падлічвай медалі,
Шкадуй,
Што іх магло быць болей,
Што па ліхой, зайздроснай волі
Табе вянкоў не дадалі.

І не чытай каторы год
Сябрам бязлітаснай маралі —
Яны ж нічога не забралі
З тваіх чыноў і ўзнагарод...

Ты выбраў сам такі зыход...



Памяць назаўсёды захавала
Той вясны запозненай прыход,
Як зязюля ў лесе накувала
Мне тады ажно паўсотні год.
Як шукалі з вішнямі сваяцтва
Сонныя чмяліныя раі
І ў запас хацелі наспявацца
У дрымотным садзе салаўі...

Потым сонца на зямлю лінула
І дажджоў краплістых,
І цяпла.
Ды чамусьці
Шчодрая зязюля
З майго лесу некуды ўцякла.

Я ж хачу сустрэцца з ёй вясною,
Каб яна здзівілася сама:
Сад — са мной,
Гады мае — са мною.
А яе са мной чамусь няма...



ГарацЬ у печцы дровы,
Патрэскваюць сучкі.
Прыходзяць самі словы
У першыя радкі.

Зусім не па заказу,
Не для пустых забаў,
А проста так,
Адразу,
Як вечар падказаў,
Ці падарыў мне крэўны
Душы святы парыў,
Ці нашапталі дрэвы,
Што ў печы я спаліў...



Я жыву на лецішчы даўно.
Аддаю душу сваю спакою.
За вяртлявых плісак талакою
Назіраю зранку праз вакно.

Уцякаю ў вечаровы цень,
Дыхаю паветрам верасовым,
Веру хмаркам
І суседскім словам,
Што і заўтра будзе добры дзень.

Мне тут лёгка ў соннай цішыні
Аддавацца думкам
На сугрэве.
Цікаваць,
Як Бог на кожным дрэве
Ад дажджоў хавае прамяні...

Тут я п'ю густы настой травы
З гаркаватым прысмакам аеру
І, нібы дзіця малое,
Веру,
Што наш свет
І вечны,
І жывы...



Не крыўдуй на сваю Радзіму.
Не яна вінавата ў тым,
Што ёй столькі хлусоў кадзілі,
Ажно горкі стаў яе дым.

Не давала яна ім права
Гаварыць ад свайго імя,
Раскідаць налева-направа
Тое, што берагла сама.

Не змушала яна генералаў
Праліваць нявінную кроў.
Не яна для нас выбірала
Празарліўцаў і правадыроў.

Гэта мы —
Ледзь павернецца крута
Нашай здрадлівай долі рака —
Падкідалі ёй то манкурта,
То няздару,
То байструка.

Гэта мы баязліўцаў пладзілі
Памяркоўнай тупой талакой.
Шматпакутную нашу Радзіму
Гэта мы зрабілі такой.

І не крыўдзі яе папрокам,
Што бывае глухой і слабой.

Не чакай ваяроў і пракокаў —
Разбірайся з самім сабой.



У подлы час не проста быць няподлым,
Ісці сваёю цвёрдаю ступой,
Калі не вераць
Ні слязам,
Ні модлам
І гнуцца перад сілаю тупой.

Адкрыты шлях
Махлярству і халуйству,
Аддадзены нахабству рубяжы.
Як хочаш меціць заўсёды хлеба лусту,
Дык пяты ўсім начальнікам ліжы.

Але трывай,
У гневе зубы сцяўшы,
Не пакідай апошні свой акоп,
Як ні было б пакутліва і цяжка,
Як скрушліва і крыўдна ні было б...



Няшчасная краіна,
Калі ў ёй
Усё ў адным-адзіным экземпляры:
Адзін палітык
І адзін герой,
Адзін філосаф
І адзін вікарый.

Як можна ўсё адужаць аднаму,
Не маючы надзеі на падмогу,
Калі паспець даводзіцца яму
І награшыць,
І памаліцца Богу,
І ўцерці слёзы горкія ў людзей,
І ў хатах вокны расхінуць да сонца?..
Адзін-адным ён —
Чулы дабрадзей,
І чарадзей,
І мудры абаронца...

А ў свеце столькі брыдкага ўсяго!
Па завуголлі сыкаюць пачвары...

Дык пашкадуйце ж, беднага, яго —
Знайдзіце хоць каго яму да пары!..



Гэта ж трэба —
Не зваліся
Дэмагогі-дабрадзеі,
Што на нас з суседскіх высяў
Непаважліва глядзелі.

І цяпер буркочуць злосна
І падсмейваюцца хітра:
— Што ў вас там?
Балоты,
Сосны,
Журавіны
Ды ракіты.
Што ў вас ёсць,
Апроч пакоры?
Хіба вы свой лёс вяршылі?
Дзе ў вас стэпы?
Дзе ў вас моры?
Дзе ў вас горныя вяршыні?
Вы ж ужо ад мовы роднай
Адмаўляецеся самі
І сягоння нават згодны
Называцца бульбашамі...

І глядзяць з такой пагардай,
З гэткім выклікам,
Няйначай,

Што як быццам нам і праўда
Адказаць зусім няма чым.

Ох, панове дабрадзеі!
Як бы вы хацелі лоўка
Адабраць у нас надзеі
І загнаць у мышалоўку,
Каб мы ўсе жылі-гібелі
Пад крылом у вашай ласкі,
Як прыблуды на вяселлі,
Як пры вогнішчы падпаскі.

Хай не Польшча, Украіна,
Але й мы не лыкам шыты.
Мы — дзяржава,
Мы — краіна,
Край жывы і знакаміты.

Ёсць у нас лясы, і рэкі,
І азёры,
І дубровы.
Ды і мы не недарэкі,
Маем рукі і галовы.

Мы свой лёс вяршылі імі,
Абмывалі ў чыстых росах.
І з хваробамі сваімі
Мы як-небудзь разбяромся.

Уладкуем край свой ёмка,
Скінем навалач цяжкую.
А яшчэ і пасмяёмся.
А яшчэ і пасвяткуем...

## Чаму?

Хоць і зглуміў нямала сіл,
Не змог даўмецца я,
Чаму не менее зусім
Чыноўнікаў сям’я,
Чаму ў іх вечны страх сядзіць
І злосць душу дзяўбе,
І ўсіх ім хочацца судзіць,
Даруючы сабе?

Чаму за гэтулькі гадоў
Уся тупая раць
Паспела вывучыць адно —
Ламаць,
Крышыць,
Караць?

Чаму мы іх перамагчы
Не ўмеем,
Як чуму,
А ўсё трываем і маўчым?..
Чаму?
Чаму?
Чаму...



Калі нянавісць просіцца ў радкі
І сэрца рвуць няўдачы і згрызоты,
Я пакідаю
Дом свой гарадскі,
Шукаю цішыні і адзіноты.

І вось,
Здаецца,
Ад усіх уцёк,
Змог ад штодзённых звадаў зачыніцца...
Але ў вакно мне стукае
Жыццё
Галінкай бэзу,
Дзюбкаю сініцы.

Яно мне не дае ў глухой цішы
Схавацца ў цемры
І на ўсё забыцца,
Зняверaным самотнікам зрабіцца
І моўчкі бавіць дні свае,
Як быццам
На выспе ў першабытным шалашы.

Яно не адпускае ад сябе
Халодным ветрам
І дажджом кроплістым,
Ядлоўцам і дубком зеленалістым,
Рыданнем кані

І шпачыным свістам,
І зоркамі,
Што свецяцца ў журбе.

І колькі б я аб шчасці ні маліў,
Як з горкаю нудой не разлучаўся б —
Жыць давядзецца ў гэтым смутным часе,
На гэтай неўладкаванай зямлі...



Народ памёр,
Калі ў яго душы
Бяспамяцтва зняверана скуголіць
І згас агонь,
І як ні варушы, —
Не загарыцца чорнае вуголле.

Яго не скалануў пякельны жах,
Як сатана па ім спраўляў памінкі,
І поўз цяжкі бульдозер па крыжах,
І дзеткам рэбры трушчылі дубінкі.

Яму чужынец вырываў язык,
А ён маўчаў
З пакорнасцю дурною...
Хоць бы праклён,
Хоць бы адчайны крык
Узнёсся над ягонаю труною!

Яму душу спаліў адвечны мор,
Пакінуў толькі камень надмагільны...

Няўжо і праўда,
Што народ памёр,
Бяспамятны,
Бязвольны
І бяссільны?..

## Беларускі характар

Вы хацелі мяне пакрыўдзіць —
Зганілі мае вершы.
Я толькі горка ўсміхнуўся.

Вы хацелі мяне зняважыць —
Абразілі майго сына.
Я моўчкі каўтнуў слязу.

Вы захацелі мяне прынізіць —
Плюнулі ў душу Беларусі.
Я сціснуў кулакі.

Сцеражыцеся, паганцы!..



Я да славы не раўную
Ні калег і ні сяброў
І ў запале не руйную
Іхніх вежаў і муроў.

Хай яны сабе будуюць
Замкі з дахамі ля хмар.
Хай ніколі не бядуюць
Ад даўно памерлых мар.

Хай сабе, як хочуць, ладзяць
І пастронкі, і гужы.
Хай сябе прароча садзяць
На высокі трон чужы.

Хай віжуюць і гізуюць,
З пахвалы плятуць вянкі
І наспех прыватызуюць
Пакаленні і вякі...

Мне ўсё гэта нецікава.
А калі іх час міне,
Вось тады хай пані слава
Не абыдзе і мяне...



Мы прывычна храбрымся самохаць,
Лічым ясныя зоркі ўгары,
А гады пачынаюць палохаць
Халадамі асенняй пары.

Хоць шыкуем яшчэ на выгодзе,
Растрасаем юнацкі пасаг,
Ды туман,
У які адыходзім,
Пазаблытваўся ў валасах.

Усё болей
Салодкай гаркотай
Наліваюцца гронкі рабін,
І пра вырай нагадвае ўпотай
Жураўліны запознены клін.



Калі ў душы адчай гарэў
І выць хацелася па-воўчы,
Прытулку я шукаў між дрэў
Для адзіноты выратоўчай.

Я піў настой духмяных траў,
Пад сонцам ліпеньскім разліты.
І Бог мне ціха дыктаваў
Жыццю гаючыя малітвы.

І, хоць я ўжо адвык ад дзіў,
А тут,
Каля сасны пахілай
Смалісты вецер мне будзіў
Даўно знядужалыя сілы.

Ля ног ручай гуллівы цёк,
Вакол цвіло і віравала
Бесперапыннае жыццё,
Якога зноў было мне мала...



Не націскай,
Мой дружа,
На басы.
Яны не ўсіх уражваюць,
Павер мне.
Хто ведае,
Куды твой спеў паверне,
Калі надыдуць новыя часы?

Ты сёння,
Захмялелы ад удач,
Красуешся перад вяльможнай ложай
І з кветкамі паклонніцы прыгожай
Гатовы бегчы да яе наўскач.

А заўтра
Зала ўзрушыцца да слёз
Зусім інакшым маладым салістам,
Ну а цябе прагоніць прэч са свістам —
І ўсе забудуць твой зламаны лёс.

Такія людзі,
Гэткія часы.
Усё мяняе ўмомант век імклівы:
Уладу,
Жарсць,
Прылівы і адлівы...

Не націскай залішне на басы!



*Леаніду Шчамялёву*

Гады ўжо нашы, як дзяды,
Стаяць ссівела за спіною,
Адгарадзіўшы нас сцяною
Ад парыванняў маладых.

З туманнай восеньскай грады
Курлыча жораў, як калісьці.
Цяжкое залатое лісце
Ссыпаюць нам да ног сады...

Ну што ж —
                гады, як і заўжды,
Не вечна поўныя імпэту.
Але ад нас буянства лета
Яшчэ не збегла нікуды.

І душ не сцялі халады,
І ўсё навокал бачыць вока,
І думка лётае высока...
Дык што — гады?
Такой бяды!..
Яшчэ да старасці далёка.



Ну вось і падступаюць халады.
Ужо не грэе восеньскае неба.
Усё цвярдзее пад нагамі глеба.
Апошні ліст асыпалі сады.

Увачавідкі карацее дзень.
Стаіўся дзяцел ля дупла старога.
І шэрая маўклівая дарога
У невядомасць стылую вядзе...



Чорная прыйшла да нас пара —
Смерць каля сяброў так блізка ходзіць...
Божа літасцівы,
Хоць парай,
Чым дапамагчы ім у нягодзе.

Падкажы,
Як нам знайсці і дзе
Горкія збавіцельныя лекі,
Кволыя атожылкі надзей
Акрапіць з якой чароўнай лейкі?

Хоць бы тыдзень лішні зберагчы!
Хай бы шанец падарыла ўдача!
Ды маўчаць
Бяссільныя ўрачы,
І дажджом няўцешным
Неба плача.

Прабягае шчасце мімаходзь,
Нікне ў змроку сцежка баравая...
І адчайны крык
«Не адыходзь!»
Цішыню шпітальную ўзрывае...

## Даруй!

*Памяці Васіля Быкава*

Даруй, Васіль,
За ўсё, што перанёс:
За ворагам нанесеныя раны,
За брудныя пляўкі з тэлеэкрана,
За слёзы ўшацкіх ссечаных бяроз.

Даруй,
Што ўсе свае зямныя дні
Ты азіраўся з горыччу міжволі
На памяці закінутае поле
І спадзяванняў спаленыя пні.

Даруй
За наш нялітасцівы час,
За ціхае кананне роднай мовы,
За ўдзячнасці запозненыя словы
І ласкі зэканомлены запас...

Тужлівымі, пакутлівымі снамі
Ты будзеш вечна мроіцца сынам...
Я ведаю —
Ты ўсё даруеш нам...
Але ці зможам даравац мы самі?..



Ён з намі жыў.
Ён з намі быў.
Хадзіў па вуліцах адных.
Ён побач з намі
Піва піў
У перапоўненых піўных.

І нэндзу разам з намі кляў.
Бег за трамваем напрасткі.
І хлеб у булачнай купляў.
І галубоў карміў з рукі...

Ну а яшчэ мяшкі цягаў,
І быў рамантыкам крутым,
І ў тайны космасу сягаў...
Ды мы не ведалі аб тым.

І вось нясуць яго труну,
І чорны надпіс на крыжы.
І мы ўжо ведаем цану
Таму,
Хто побач з намі жыў...



Адыходзяць хлопцы,
Адыходзяць.
Адлятае жураўліны клін.
Хочацца ўжо небу крыкнуць:
— Годзе!
Ты хоць трохі талентаў пакінь.
Што ж ты забіраеш іх на ўзлёце?
Што ж ты пакідаеш на зямлі
Шэранькіх,
Што ў таннай пазалоце
Самі кут чырвоны занялі?

Не шкадуеш ім гадоў заможных,
Душы ім сумненнямі не рвеш.
А ніхто ж з іх выдыхнуць не можа
Хоць адзіны лебядзіны верш...

...Павуцінка вісне адзінока
На галінах сцішаных калін...
І ляціць у сіняве высокай
І курлыча жураўліны клін...



Развітваемся з Нінаю Мацяш
Пад нізкім небам
І калючым ветрам.
Маўчыць прастора шэрая наўсцяж
І змрок гусцее над абліччам светлым.

Цярплівіца,
Пакутніца,
Сястра
У вечны вырай ціха адплывае.
Як прысак неастылага кастра,
Прамяніць цеплыня яе жывая.

Але ўжо холад падступае з-за
Жалобнага пясчанага пагорка.
І на вачах дрыжыць
Ці то сляза,
Ці то з падхмар’я стрэсеная зорка...



Мы ўсё чакаем.
Мы ўсё трываем.
Мы ўсё шукаем
«Наступны раз».
А час
То глуха грыміць трамваем,
То мерседэсам імчыць паўз нас.

Ці мы паспеем?
Ці мы дагонім?
Ці ўслед рукою махнём дарма
На тым, абрывістым перагоне,
Пасля якога дарог няма?

Здаецца,
Мы разумеем самі,
Што не павернем убок трамвай
І не схаваемся ў ім «зайцамі»,
Якую лаўку там ні займай.

А ўсё ж не хочацца быць староннім,
Да адпраўлення спазняцца спрэс.
Хаця б трамвай свой не праваронiць,
Калі ўпусцілі ўжо мерседэс...



Я не цягнуў у забыццё
Святых зямных дароў
І праз усё сваё жыццё
Сябрам дарыў сяброў.

Дзяліў захопленасць і гнеў,
Нястомным быць хацеў.
Транжырам быў
І не бяднеў,
А толькі багацеў.

Бо з маладой маёй пары
Спагадныя сябры
І мне паспелі падарыць
Шчаслівыя дары.



Мы крочым па жыцці
З дылемаю адной:
Да ісціны ісці
Ці сябраваць з маной.

І памятаць яшчэ
Круты закон стары:
Хлусіць куды лягчэй,
Чым праўду гаварыць.

А выбраць трэба з двух
Адзін сакральны знак —
Маны дурманны дух
Ці праўды горкі смак.

Спаліць
Ліхіх гасцей
Траянскія дары.
Хлусіць куды прасцей,
Чым праўду гаварыць.

Але расце трава
І ў цемрадзі начы.
І варта ўсё стрываць,
Да праўды ідучы.



Божа мой,
Як лёталі мы ў марах —
Сёння і не ўспомніць ані блізка.
Хіба што ў журботных мемуарах
Рыпнуць,
Як вячэрняя калыска.

Выраслі даўно,
Працверазелі,
Памудрэлі,
Сталі асцярожныя.
Ад наіву вылечыла зелле —
Палыны сівыя
Прыдарожныя.

Толькі і цяпер
Начамі мучае
У гадоў бязлітаснай аблозе
Самае святое і балючае,
Што дагэтуль так і не збылося...



Калі душа ад смутку халадзее
І горкі одум хіліць галаву,
З наіўнай, неўсвядомленай надзеяй
Я паднімаю вочы ў сіняву.

І сцішана гляджу,
Зачараваны
Бяздоннаю прасторай незямной,
Як белых аблачынак караваны
Павольна праплываюць нада мной.

Стаю пад сінім небам
Адзінокі,
Яшчэ далёкі ад ліхой бяды.
Хто ведае,
Адкуль плывуць аблокі.
Хто ведае,
Плывуць яны куды.

І што там,
За туманным небасхілам,
У сівернай далёкай старане?
Быць можа,
Там
Пакрыўджаным і хілым
Куды гарчэй,
Куды цяжэй,
Чым мне...



Павуцінку
Сівізною ранняй
Скінулі нам з неба жураўлі.
Спадзяванняў
І расчараванняў
Столькі мы з табой перажылі!

Мы цяпер жывём у добрым ладзе.
Крыўды ўсе забыліся.
Але ж
Ні адной маршчынкі не разгладзіш,
Ні адной слязінкі не сатрэш...

## Стомлены журавель

Хай табе ясень ківае з грады,
Хай табе верас махае на ўзлессі,
Не адставай ад сваёй чарады
У пацішэлым пустым паднябессі.

Вокам журботным
Угледзься здаля,
Як пад крыламі
Ў смузе праплывае
Самая лепшая ў свеце зямля —
З рэчкамі,
Хатамі
І паплавамі.

Ты яшчэ вернешся ўвесну сюды.
Ну а цяпер,
Журавель мой стамлёны,
Не адставай ад сваёй чарады,
Не азірайся на жоўтыя клёны.

Хай прывыкаюць да сумных нябёс
Выстылы гай
І панурая ніва.
Толькі ты ведай,
Што ў дождж і мароз
Мне без цябе будзе вельмі тужліва.



Падаюць кроплі са стрэх.
Быццам срэбны званочак
Лічыць імгненні
У гулкай начной цішыні...
Толькі на момант закрыю стамлёныя вочы —
Здасца,
Што ў вечнасць знікаюць
Пражытыя дні.

Падаюць кроплі...
Нібы на змакрэлае лісце
Падаюць сумна
З асенніх гаёў
Жалуды.
Кропля за кропляй.
Як зорка за зоркай
Калісьці...
Божа,
Няўжо гэта падаюць нашы гады?



Ці то лёс мяне карае,
Ці згубіў сцягу сваю —
Я ў сваім бацькоўскім краі
Шмат чаго не пазнаю.

Столькі ўзлессяў паглумілі,
Столькі высеклі лясоў!
Не чутно,
Нібы ў магіле,
Тут птушыных галасоў.

Не відно,
Як ні ўзірайся,
Ні вавёрак,
Ні чыжоў.
Нібы здань у чорнай расе,
Змрок цікуе з-за лаўжоў.

У гушчар спаўзліся цені.
І як плот для цішыні —
Буралом,
І запусценне,
І пасечаныя пні...

І брыду я полем чыстым,
Быццам крыж цяжкі,
Цягну
Перад краем і дзяцінствам
Неаплатную віну...

## Спёка

Соннаю мухаю сноўдаюся па паўдзённаму
скверу,
На лавачцы пад разамлелымі дрэвамі сумую
па ценю.
І нікольki не веру
Ні парасону,
Ні вееру —
Проста пад сонцам пякучым пацею.

Смажуся на патэльні гарадскіх плошчаў.
Разяўленым ротам хапаю хвалі нагрэтага
ветру,
І ў адчаі пытаюся ў Бога:
«Навошта?
Навошта такая спякота?
Я ніяк не дапетру».

Смуроднай гарачынёю патыхае асфальт
праспекта.
На ягоным бяздымным кастры я, здаецца,
ужо дагараю...
І раптам усё разумею:
Гэта нас прывучаюць да пекла!
Бо хто ж і завошта, скажыце, нас запросіць да
раю?..

## Красавіцкі дождж

Доўгачаканы красавіцкі дождж
З дарогі лісце прэлае змывае
І па зямлі халоднай басанож
Бяжыць насустрач маладому маю.

Маўклівую зімовую тугу
Перад сабою гоніць безупынку.
І раптам пакаўзнецца на бягу,
Пад кроплямі не згледзеўшы ільдзінку.

Буйны капеж павесіў на сасну,
Загруз у глейкім прыдарожным брудзе
І ўрэшце ціха ў лужыне заснуў,
Пакуль яго вясновы гром разбудзіць...



Камары хварэюць на бяссонніцу.
На лясной паляне
Ці ў двары
На хвіліну нават не ўгамоняцца,
Звоняць
Ад зары і да зары.

Гоняць іх
Над пыльнымі дарогамі
Волкія вячэрнія вятры.
Коні
Б'юць па іх хвастамі доўгімі.
Труцяць іх
Начлежныя кастры.

Іх малеча
Вецццем за адрынаю
Хвошча спрытна так не па гадах...
Незайздроснай долі камарынай
Хай бы хто хоць раз паспагадаў.

Дзе там!
А калі яны пад соснамі
Несціхана мак таўкуць на дождж,
Дзівяцца з іх,
Што такія злосныя
І яшчэ худыя да таго ж...



Сягоння лес не той,
Як быў учора —
Не можа ўратавацца ад людзей.
Чырвоны капялюшык мухамора
І той здалёк відзён усё радзей.

Да самых нетраў
Ад людскога статку
Пракладзены віхлястыя шляхі
І вытаптаны ў пыле
Да астатку
Ігліца,
І грыбніца,
І імхі.

Ужо не паблукаеш адзінока,
Не ўгледзіш расамаху за лаўжом.
Наважышся на грыб пакласці вока,
А там ужо стаіць дзяцюк з нажом.

І коціцца наўсцяж гуканняў рэха,
І цішыню ірвуць гудкі машын.
І хмуры лес,
Як нейкі недарэка,
Разгублена стаіць каля шашы...



Завея ўсё бліжэе з кожным днём.
Цяпло наша канчаецца, канчаецца.
Над памутнелым акіянскім дном
Даўно ўжо пракрычала наша чаіца.

Удалеч хвалі коцяцца радзей.
Бурштын на мокрым беразе не свеціцца.
Зусім не грэе стомленых грудзей
Няяркае святло начнога месяца.

З-за дзюнаў наплываюць халады,
Згасае ў небе хмарка залатая.
І вецер нашы летнія сляды
Пяском сыпучым ціха замятае...



Наслядзіла восень,
Наслядзіла,
Лісце клёнаў раскідаўшы густа,
Быццам бы па сцежках пахадзіла
Чарада неадляцелых гусак.

Прашумела восень,
Прашумела
Ветрамі над нівай апусцелай,
Быццам гэта з возера нясмела
Лебедзь запазнелая ўзляцела.

Адпалала восень,
Адпалала
На рабінах тонкіх і асінах
І на голле першы снег паклала,
Быццам апусціўся пух гусіны...



Сеецца,
Сеецца,
Сеецца
Нудны асенні дождж.
Падае,
Падае
Падае
Мокрае жоўтае лісце.
Вецер абсвіствае
Згадкі пражытых гадоў
І летуценні наіўныя,
Што не збыліся.

Доўжыцца,
Доўжыцца,
Доўжыцца
Сумная чорная ноч.
Шэпчуцца,
Шэпчуцца,
Шэпчуцца
Ліпы старыя ля хаты.
Сон не прыходзіць.
І сэрцу здаецца даўно,
Што гэта лёс нешчаслівы
Ва ўсім вінаваты.

Хочацца,
Хочацца,
Хочацца
Зноўку да лета дажыць.
Просіцца,
Просіцца,
Просіцца
З неба вясёлая просінь...
А на двары
Несціхана, бясконца дажджыць
І наганяе самоту
Пахмурная восень...



Паверце,
Мне для шчасця трэба
Зусім нямнога, далібог:
Высокае святое неба
І разняволенасць дарог,
Запрацаваны хлеб жытнёвы,
Галоўка ўнука пад рукой,
І асалода роднай мовы,
І краю роднага спакой,
Куст ядлаўцовы ля парога,
Глыток крынічнае вады...

І не хачу я больш нічога
На ўсе апошнія гады.



Вось і мінулася зіма.
Па-веснавому свеціць поўня.
А ўсё майго шпака няма.
Пустуе новая шпакоўня.

Ці то ён шлях перамяніў
Бліжэй да ўзлескаў і рачулак,
Ці то яго пераманіў
Чужы зацішнейшы прытулак.

А можа, ён не перабыў
Завей апошніх на балоце
Ці нехта злосны перабіў
Слабыя крылы на падлёце...

Гляджу ў нябёсы ад відна,
Дзе песня жаўранка лунае —
І мне здаецца,
Што вясна
Наш сад прыціхлы абмінае...



Бурліць,
Шуміць,
Пяе юнацтва,
Як млын з вірліваю вадой...
Ах, як хацелася б угнацца
Мне за паводкай маладой!

Вядома,
Сілы ўжо не тыя,
Не той запал,
Не той імпэт.
І ў храме — новыя святыя,
І ў садзе — новых яблынь цвет.

Ды хай паможа мне Ўсявышні,
Каб у юнацкай гамане
Быў голас мой
Зусім не лішні
І свой пасад
Быў у мяне...

## Сябру, які залішне маладзіцца

Няўжо цябе трывожыць сівізна?
Няўжо ты і дасюль прызнаць не хочаш,
Што больш ужо не вернецца вясна
І ўсё цямнеюць і даўжэюць ночы?

Прайшла твая юрлівая пара,
Адбушавалі, адгрымелі гулі
І для дзяўчат з суседняга двара
Ты ўжо слабы паважлівы дзядуля.

Не папракай чужую маладосць,
Што ад тваіх залётаў уцякае.
У рэшце рэшт усё прымі
Як ёсць:
Ты для прызнанняў юных нецікавы.

Святым законам часу не пярэч,
Няпрошана не рвіся на вяселлі.
У туманах расстанняў і сустрэч
Усе твае сяброўкі пасівелі.

Не для цябе былыя віражы,
Напяты ветразь на высокай рэі...
А памяць маладую беражы.
Яна заўсёды так салодка грэе...



Сее, сее дожджык нуднаваты.
На двары такая хлюпата,
Што, як кажуць,
Грэх з зацішнай хаты
Выганяць сабаку ці ката.

Восень дэманструе даўні нораў —
Замятае мокрым лісцем пні,
І лісіцы не вылазяць знораў,
Дрэмлюць у халоднай цішыні.

Віснуць хмары шэраю пагрозай.
Не чуваць ні кнігавак, ні жней.
Пад вятрамі голыя бярозы
Ціснуцца да купы ўсё дружней...



Калі ўцякаю спехам ад адчаю
На Полаччыну мілую сваю,
Усё часцей са страхам адзначаю,
Што свой любімы край не пазнаю.

Бяда не ў тым,
Што на былых сцяжынах
Ужо даўно няма маіх слядоў,
А ў тым,
Што парабіліся чужымі
Зарослыя ваколіцы дзядоў.

Усё радзей трапляюцца на вочы
Каля разбітых палявых дарог
Счарнелы хутар
І пахілы вочап,
Паветка
Ці заржаўлены нарог.

І я дачуцца не магу ў аблудзе
Ні звону кос,
Ні песень маладых.
Ці гэта кут наш раптам абязлюдзеў,
Ці, можа, я прыехаў не туды?

Вось і стаю на стылым раздарожжы,
Як ліст апалы,
Памяць варушу,

Што развітацца са старым не можа
І не пушчае новае ў душу...



У свеце пануе
Шум гарадскі,
Нястрыманы і цяжкі —
Лавінаю рынуць легкавікі,
Шасцяць на бульварах сцяжкі.
Равуць стадыёны,
Гудуць правады,
Грукоча метро пад зямлёй,
Фантаны
Струменямі пеннай вады
Шыпяць стогаловай змяёй...

І хочацца збегчы ў далёкую глуш,
Дзе пчолы звіняць над шашой,
Дзе нават і шэптам спакой не паруш,
Калі ты стаміўся душой.

Над соснамі
Гром самалёт пранясе,
Расколецца вышыня,
Ускрыкне на міг перапёлка ў аўсе —
І зноў,
Як у сне,
Цішыня...



Што ж ты, сэрца, мяне падводзіш,
Нечакана трывогу б'еш?
Я не веру,
Што на падыходзе
Мой апошні зямны рубеж.

Мне з маёю душой беларускай
Столькі выпала калатні!
Ты ўжо мне даруй перагрузку,
Што прынеслі пакутныя дні.

Перасіліць зігзагі эпохі
Скора здолее родны край...
Так што ты патрымайся трохі.
Патрывай яшчэ,
Патрывай!..



Першы жоўты ліст,
Нібы паштоўку з восені,
Мне прынеслі раніцой вятры,
Хоць плыве яшчэ ў зялёнай прасторы
Цёплы водар жнівеньскай пары.

Ды ўжо нізка
Над пустымі нівамі
Ходзяць хмаркі шэрай чарадой
І ўзлятаюць качары крыклівыя
Над пахаладзелаю вадой.

Вожыкі схаваліся ў сасонніку.
Прыўзнімаюць мох баравікі.
Але ўсё яшчэ стракочуць конікі
І лапочуць крыллем матылькі.

Бергамот,
Упадабаны восамі,
На галлі яшчэ трымае сад...
Так што, пэўна,
Нецярплівай восені
Я паштоўку адашлю назад...



Ціша спавядальная
Над гаямі коціцца.
У былое-даўняе
Мне вярнуцца хочацца.

Пастаяць пад вербамі,
Выйсці за ваколіцу,
Пачакаць нявернyю
Русую свавольніцу,
Падзяліцца з ветрамі
Першымі сакрэтамі,
Песнямі няспетымі,
Снамі несустрэтымі.

Хочацца нацешыцца
Радасцю кароткаю —
Вечаровай сцежкаю,
Веснавою лодкаю,
Што ў гадах згубілася
І ўжо больш не збудзецца,
Што даўно забылася,
Што навек забудзецца...



Абрынулася восень на зямлю
Вятрыскамі і ранняй прахалодай.
І хітры вуж
Стаіўся пад калодай,
Даверыўшыся цёпламу гніллю.

Ён не пачуў пранізлівае «Кру!»
Над вечаровым лесам апусцелым,
Але адчуў
Сваім халодным целам
Для непагадзі блізкую пару.

І ён скруціўся стомлена ў клубок,
Агледзеўся навокал з паўхвіліны
І летнія шчаслівыя ўспаміны
Аж да вясны
Паклаў сабе пад бок...



У палісадніках —
Вось яны! —
Весела расцвілі
Жоўтыя кветкі восені,
Познія краскі зямлі.

Будзе цяпер акружаны
Наш пацішэлы дом
Не васількамі і ружамі —
Іх развітальным святлом.

Будуць пахмурныя далечы
Цешыць яны шмат разоў,
Сонца ў сабе люляючы
Аж да сівых маразоў...



Ішлі дажджы каторы дзень запар,
Ішлі дажджы.
Лілі без перадыху.
І сонца забывалася паціху
Вылазіць з-за абложных шэрых хмар.

Здавалася,
Ужо ніхто не мог
Утаймаваць той вадаспад няспынны.
І скурчыліся мокрыя рабіны
Каля разлезлых, хлюпаткіх дарог.

Заціхла ўсё навокал у нудзе,
Як быццам белы свет бязгучна плакаў.
За цэлы дзень
Ні певень,
Ні сабака
Ні разу не азваліся нідзе...

З парывамі залевы ва ўнісон
Пажухлыя лісты скідалі дзічкі...
І толькі зычны голас электрычкі
Будзіў асенні беспрабудны сон...



Грукоча вуліца за вокнамі
І аб спакоі толькі сніць,
Каб зліцца з галасамі звонкімі
Шпакоў залётных і сініц,
Каб сцішыцца пагодным вечарам
І, як запаляцца агні,
Хоць раз задумацца пра вечнае
Без мітусні і таўкатні...



*Данчыку*

Ледзьве ў небе засвеціцца золак,
Момант радасці не праміне —
Нада мной заспявае анёлак
Для мяне,
Пра сябе,
Пра мяне.

Ахіне мяне музыкай блізкай,
Успамінам далёкім
Аб тым,
Што я некалі чуў над калыскай
І пад купалам неба святым.

Мне шчымліва падступіць да сэрца
Ціхі шэпт з прамінулага дня
Пра забытае ў студні вядзерца
І пра белую грыву каня...

Я не ўсё зразумею спрасоння,
Але ўсё ж не змаўкаць папрашу,
Каб мне соладка сцяла і сёння
Таямніцай шчаслівай душу...

Мой анёлак,
Мой юны зямляча
У нязбытнай і светлай журбе
На чужыне спявае і плача

Пра цябе,
Родны край,
Пра цябе.



Не ганьце наш час убогі
І ўлік не вядзіце заганам,
Адкіньце дурныя трывогі —
Даверце зямлю закаханым.

Аддайце вочы каханню —
І зробіцца свет ружовым.
Аддайце словы каханню —
І песняй зробяцца словы.
Аддайце зоркі каханню —
І шлях ваш зробіцца Млечным.
Аддайце шчасце каханню —
І шчасце зробіцца вечным...

Але і на міг кароткі
Не перадайце каханню
Ні рэўнасць,
Ні зайздрасць,
Ні плёткі,
Бо свет тады пеклам стане.



Яшчэ не вечар, мілая.
Яшчэ не вечар.
Наперадзе ў нас тысяча сустрэч.
І будзе бэзам новы май расквечаны.
І салаўі аглушаць насамрэч.

І ўзыдуць зоркі раннія над вязамі.
І ты даверыш сон майму плячу.
І тыя словы,
Што яшчэ не сказаны,
Табе я нечакана прашапчу.

І засмяецца маладзік у фортцы.
І вернецца блакітны вецер наш...
А калі раптам нешта не паўторыцца,
Ты літасціва тое не заўваж.

І не бяда,
Што бэз цвіце не вечна
І лісце асыпае вяз не раз...
Яшчэ не вечар, мілая.
Яшчэ не вечар.
Вясна яшчэ не разлучыла нас...



Адцвіла вярба.
І сплыла вада.
Маладой вясны
Мне да слёз шкада.

А яшчэ шкада
Лета краснага,
Лугу роснага,
Сонца яснага.

Адлятае ўдаль
Птушак чарада...
Пад асенні шум
І сябе шкада...



Паркалёвая сукенка.
Кашміровая хусцінка...
Дзе жывеш ты сёння,
Ленка?
З кім ты сёння ходзіш,
Нінка?

Дзе ваш лёгкі след згубіўся,
За якімі туманамі?
Я ж і сёння не забыўся,
Што было калісьці з намі.

Як дружылі з гузакамі,
Не баяліся сурокаў
І ў чаромхавую замяць
Уцякалі ў лес з урокаў.

Малады спалох салодкі
Ад саміх сябе хавалі.
І хісталі нашы лодкі
На вірах рачныя хвалі.

Верасовыя палянкі.
Ядлаўцовыя узмежкі.
Заляцанні.
Пагулянкі.
Абяцанні.
Перасмешкі.

Залатыя сны дзяцінства.
Успамінаў даўніх стрэмкі...
Кашміровыя хусцінкі,
Паркалёвыя сукенкі...



Каля сцежак старых, ледзь прыкметных,
Дзе нас вечар падсцерагаў,
Пад асеннім парывістым ветрам
Сірацее рабінавы гай.

Колькі ранніх, загадкавых зорак
Мы злічылі з табой за сялом!
І хаця мне далёка за сорак,
Я ўсё грэюся іхнім святлом.

Ну а тонкія нашы рабіны
Узняліся высокай сцяной.
Снегіры іх зімой церабілі
І шпакі калыхалі вясной.

Ім свяціла вясёлая поўня.
Абміналі смуга і туга...
Можа,
Ты гэта ўсё і не помніш.
Помню я.
І рабінавы гай...



Спярша
Сустракаюцца вочы.
Пасля
Сустракаюцца рукі.
Пазней
Сустракаюцца вусны.
І толькі
Калі сустракаюцца душы —
Нарэшце
Прыходзіць каханне.



Знайшлі ў перапоўненым свеце
Адно аднаго без прынукі
Твае захмялелыя вусны,
Мае асмялелыя рукі.

Імкнуліся доўга насустрач
Праз роспач,
Сумненні,
Разлукі
Твае недасяжныя вусны,
Мае сарамлівыя рукі.

І ўрэшце сышліся навекі,
Адчай пражыўшы і мукі,
Твае нецярплівыя вусны,
Мае нецярплівыя рукі...



Час гады пражытыя гартае,
Згортвае зямных шляхоў сувой.
І чарнее сінява густая
Над глухой сцяжынкай баравой.

Лета залатое адшумела.
Восень небу аддае цяпло.
Сэрцу адгукаецца нясмела
Тое,
Што было і адплыло.

Ну а я ніколькі не шкадую,
Што ў жыцці не ўсё,
Што мог,
Зрабіў
І цябе,
Такую маладую,
Да сівых валос не разлюбіў.

## Сонейка незакатнае

1

Ты прачынаешся —
І для мяне ўзыходзіць сонейка,
Залатое,
Вясёлае,
Ласкавае.
І яно запаўняе сабою
Яшчэ сонны пакой
І маё трапяткое сэрца.
Русым вадаспадам промняў
На плечы твае абрынаюцца валасы,
Як ластаўчыны крылы,
Пад імі ўскідваюцца бровы —
І ўсё вакол робіцца
Разняволеным,
Цёплым
І родным.

Я сцішана грэюся каля твайго загадкавага
святла,
Пакуль ты
Заплятаеш косы
І фарбуеш вусны,
Выбіраеш сукенку,
Шукаеш чаравічкі.

Я не хачу цябе адпускаць,
Бо без цябе мне будзе
Холадна,
Сумна
І змрочна.

Але я ведаю,
Што сонца
Павінна свяціць усім,
Не толькі мне аднаму.
І я праводжу цябе да дзвярэй,
Цалую на развітанне
І доўга гляджу ўслед.

Я цяпер ведаю,
Як пахне сонца —
Тваімі духамі і памадай,
Чым яно пазвоньвае ў цішыні —
Тваімі ключамі,
Як таропка цокае па тратуары —
Тваімі абцасікамі...

Ты — маё сонейка.

2

Божа мой,
Колькі клопатаў сыплецца на мяне з усіх
бакоў —
Паперы,

Тэлефонныя званкі,
Наведвальнікі,
Просьбы,
Загады,
Парады,
Даручэнні,
Паведамленні!..

І ўсё —
Абавязковае,
Тэрміновае,
Неадкладнае,
Падрабязнае,
Дакладнае...
Ад сяброў,
Ад калег,
Ад начальства...
І я
Кручуся,
Лаюся,
Махаю рукамі,
Хапаюся за сэрца,
Знясілена падаю на крэсла.
У мяне пагрозліва цямнее ў вачах.

І тут —
Як збавенне,
Як голас неба,

Твой тэлефонны званок:
«А ці паабедаў ты?»

Сонейка,
Пра якое я забыўся,
Зноў выбліснула з-за хмар
І агарнула мяне ласкай,
І прагнала адчай,
І прамыла мне вочы святлом.

Ты ёсць!
Ты думаеш пра мяне!
Ты хвалюешся.
Ты — побач.

Сонейка маё...

3

Па ацішэлых вуліцах
Нясу дадому
Стомленасць,
Неадчэпныя клопаты,
Пакутлівую незадаволенасць сабой
І цяжкі ад недачытаных кніжак партфель.
Не звяртаю ўвагу
На паспешлівых мінакоў,
На перапоўненыя аўтобусы,
На пахаладнелы вецер
І лёгкае шэрае сутонне.

Хочацца як хутчэй
Трапіць дадому,
Скінуць чаравікі,
Адшпурнуць партфель
І ўлегчыся на канапу,
Аддаючыся спакою і прыцемку.

Але насустрач выходзіш ты,
Усмешлівая і прыгожая —
І я забываюся на ўсё,
І хапаю цябе на рукі,
І, як на нашым першым спатканні,
Нясмела і нязграбна
Тулюся да цябе,
І не хачу апускаць на зямлю,
І слепну ад тваіх гарэзных вачэй,
Патанаю ў тваім гарачым дыханні...

За вокнамі — змрок,
На двары — вечар.
Але гэта —
Для іншых,
Змарнелых і няшчасных,
Зняверaных і адзінокіх.

А ў мяне на руках —
Загадкавае і чаканае,
Захмеленае і праменнае
Маё сонейка...

4

Твая галава — на маім плячы.
Твая далонька — пад маёй шчакою.
Ля маіх вуснаў — твая скроня
З ціхаю спалоханай жылкаю.

Я паволі адплываю ў сон,
У наша юнацтва:
Пад нашы шапатлівыя бярозы,
Да нашых верасовых сцежак,
Да нашых наіўных клятваў,
У нашу веснавую памяць.

Ты таксама плывеш побач.
І даверліва працягваеш да мяне руку,
І дазваляеш акунуцца ў паводку
Тваіх духмяных валасоў
І вуснамі знайсці твае салодкія вусны...

І ўсё цямнее,
Знікае,
І зямля выплывае з-пад ног,
І ў грудзях ашалела грукае сэрца...

Ды раптам —
Праз сон —
Ты ўскрыкваеш.
І я ўсхопліваюся,
І мяне аблівае пяшчотай

І густой незямной цеплынёй...
Ты нікуды не падзелася.
Ты — ёсць,
Ты — побач,
Ты — са мной,
Сонейка маё незакатнае!..



Дзеўчанятка вылятае куляй
З цёплай хаты ў звечарэлы свет.
І глядзіць разгублена матуля
Шчасцю безразважліваму ўслед.

Не трывожся,
Мама дарагая,
На парозе ўзрушана не стой.
Хай твая дзяўчынка выбягае
На сустрэчу з першаю вясной.

На плячах блакітная хусцінка.
У вачах трывога растае.
Вось і вырасла твая дзяўчынка.
Не ўтрымаеш ты цяпер яе.

Шумнаю ватагай з хлапчукамі
Пойдзе яна ў поле за сяло...
Можа быць,
Там лёс яе чакае,
Як калісьці і ў цябе было...

## Расстанне

Лёгкі вецер нясмела
Гладзіць лісце на клёнах.
Я стаю,
Анямелы,
Каля весніц замкнёных.

Ты ж глядзіш запытальна
З-пад прымружаных вейкаў
З невымоўнаю тайнай
І загадкаю нейкай.

Пэўна,
Я вінаваты,
Што пад поўняй халоднай
Ад тваёй роднай хаты
Я пайду назаўсёды...



Для цябе я ўсё зраблю,
Што ты ні захочаш:
Убяру ў сады зямлю,
Зор насыплю ноччу,
Маладога салаўя
Пасялю ля ганку,
Нашапчу табе здаля
Казку-калыханку.
Сцежку тайную знайду
Праз агонь і воды,
Адвяду тваю бяду
Раз і назаўсёды.
Сонца ў хату нанашу,
Супакою сэрца...

Толькі ты
Маю душу
Дапусцi пагрэцца.



Жанчына —
Сасуд грахоўны,
Аднойчы сказаў мудрэц.
Як добра,
Калі ён поўны
Табой,
Як вадой карэц.

Як добра,
Калі ў сасудзе
Салодкі, п’янкі напой,
Які асушаны будзе
Да кроплі
Адным табой!

Вазьмі ж ты яго на рукі
І беражна прыгубі,
Нясі праз гады і мукі,
Не выпусці,
Не разбі.

Хоць ён і пракляты Богам,
Ды кажуць здаўна недарма:
На гэтым свеце
Нічога
Святцей і жаданей няма.

## Капрызуля

Ходзіць месяц па двары,
За страхой хаваецца.
Ты мне слова падары,
Што не забываецца.

Павяду цябе да хвой
Проста ў ноч дрымучую,
Непрыступнасцю сваёй
Аж да слёз намучаю.

Ды няхай тваё ў журбе
Сэрца не параніцца —
Пацалунак твой табе
Я вярну пад раніцу.



Баяцца сноў жаніхі-перастаркі
Яшчэ, напэўна, з часоў Міндоўга...
Асеннія кветкі не дужа яркія,
Але затое красуюць доўга.

Ну што паробіш,
Як з вуснаў юных
І шэпт прызнання смялей злятае?
На пацішэлых, стамлёных струнах
Вядома, песня зусім не тая.

Хто ж вінаваты,
Калі так рана
Зіма на лузе рыпіць палоззем
І пахмяляецца
Нечакана
Душа жывая
Каханнем познім?..



І ноч не ноч,
І дзень не дзень,
Калі цябе няма.
І сум не йдзе,
І сон не йдзе,
І час ідзе дарма.

І ходзіць ціша вулкамі
У згубе і журбе.
І ўсе падушкі мулкімі
Здаюцца без цябе.

Я на табе зацыклены,
Здаецца, сам не свой.
Мне ўжо гадзіннік цікае
Табой,
Табой,
Табой...

Ні шолахаў,
Ні гукаў...
Ні хвіляў,
Ні гадзін...
Адчайна сэрца грукае:
Прыйдзі,
Прыйдзі,
Прыйдзі!..



Хто ведае —
Быць можа, штосьці было б,
Каб нас з табой раней звялі дарогі
І час разлук,
Разважлівы і строгі,
Не супыніў раскутых мар галоп.

Нас юны шал не падсцярог нідзе,
Нам май не слаў захмеленай пасцелі,
І мы расчаравацца не паспелі
Ні ў воднай з недазволеных надзей.

Ну што ж,
Дагледзім паасобку сны
І, можа быць,
Зажурымся міжволі,
Што так і не сустрэнуцца ніколі
Дзве нашы незваротныя вясны...



Як толькі рыпнуць веснічкі ратая
І гаспадыня выгляне на ганак,
Вясёлы шпак на яблыню ўзлятае
І першай песняю вітае ранак.

І ўжо туман усё хутчэй сплывае,
І ўсё званчэе ў птаха шчэбет ціхі...
Вы думаеце,
Шпак для вас спявае?
А ён спявае для сваёй шпачыхі.



Вецер ходзіць каля хаты,
Хіліць вішню да сцяны,
Дуе ў комін глухавата,
Нібы ў рог берасцяны.

На двары галосіць зычна
Злагаднелай пустальгой —
Ці то просіць,
Ці то кліча
Сам не ведае каго.

Шамаціць травой ля плота.
Кветкі пнецца здратаваць...

Гэта ён ад адзіноты
Мяне хоча ўратаваць...



Вось і падае лісце,
І завея мяце.
Мы ж з табой,
Як калісьці, —
На зялёнай вярсце.

На забытай,
Замглёнай,
На зарослай травой,
А ўсё роўна зялёнай,
Веснавой,
Лугавой.

Мы з табой пастарэлі,
Але з гэтай вярсты
Салаўіныя трэлі
Чуем зноў я і ты.

І прыносіць далёкі
Ветру лёгкага ўздых
Развітальныя крокі
Нашых дзён маладых.

Ах, які ён салодкі,
Водар даўніх атаў!..
І зялёная ўсё-ткі
Тая наша вярста!..



Век хлусні,
Інтрыг
І інтэрнету
Піша свету новы свой статут,
Ды нахабны кліч
«Гані манету!»
Чуецца ўсё роўна там і тут.

Як ні завіхаюцца святошы,
А і ў іх бывае шмат разоў,
Што грахом заробленыя грошы
Даражэй крыжоў і абразоў.

Хто ў каго сягоння на ўтрыманні —
Не сакрэт,
Каго ні папытай:
Слава дружыць з тым,
Хто мае «мані»,
Сіла там жыве,
Дзе капітал.

Водблескам нябёс даўно не свецяць
Скіпетры,
Кароны,
Медалі.
Хіба ёсць дасюль на белым свеце
Тое,
Што яшчэ не прадалі?..



Сцвярджаюць,
Што няпоўная зямля
Без Ваввеля,
Без Луўра,
Без Крамля...

Я не пярэчу —
Так яно і ёсць.
Хто ж абміне зямную прыгажосць!

Ды для мяне
Няпоўная зямля
Без Турава,
Расон
І Капыля,
Без Свіцязі
З вясёлкаю двайной
І без святой Сафійкі над Дзвіной.

Няпоўная яна
І без буслоў,
І без пявучых беларускіх слоў,
І без дзянніцы ў матчыным вакне...

Я думаю,
Паверыце вы мне...



Ах, як мне хацелася б
Быць заўжды спакойным,
Мудрым і абачлівым,
Не суддзём, не воінам,
А ва ўсім разважлівым,
І да ўсіх ласкавым,
І такім любімым,
Як спявак з «Ла Скалы».

Суцяшаў змявераных
Я б з тэлеэкранаў.
Мне б стаяць даверылі
Ля дзяржаўных ранаў.
Мной бы ганарыліся
Ліхвяры і клеркі.
На мяне б маліліся
Старцы і калекі...

Толькі як ты здолееш
Гэтакае шчасце
Да майго характару
Хоць на міг прыкласці,
Калі ўсю душу маю
Не аднойчы трэсла,
Як я бачыў муміі
На высокіх крэслах?
Дзе, з чыёй парадаю
Шлях знайсці да сонца,

Калі бой з няпраўдаю
Гэтакі бясконцы,
Калі дух прыгнечаны
І слабее сіла,
А хлусня адвечная
Край запаланіла?..

Дык не папікайце,
Што я лішне злосны,
Гнеўны і яршысты,
Проста невыносны —
Лепш дапамажыце
Быць зусім інакшым,
Калі добра жыць мне
Стане ў краі нашым...



Вы верыце,
Што памяняўся свет
І стаў нарэшце ўтульны і спакойны
І ваяўнічы багацей-сусед
Ужо зусім не думае пра войны?

Вы ўпэўнены,
Што за свае гады
Паспелі дасканала разабрацца,
Дзе ісціна,
А дзе падману дым,
Дзе злы хаўрус,
А дзе святое брацтва?

Вы згодныя,
Каб людзі і далей
Прымалі з непазбежнасцю пакорнай
І абяцанак прытарны ялей,
І самавольства д'ябальскія жорны?..

Шчаслівыя.
Падладзіліся вы
Да нечаканак,
Стрэсаў
І навацый...
А я ўвесь боль бяру да галавы
І ўсё не развучыўся сумнявацца...



Быць хачу шчаслівым!
Вы мне не пярэчце —
Выпраўлюся з хаты,
Абміну парэнчы,
За вароты выйду,
У цяньку прысяду,
Памалюся сонцу,
Падзіўлюся саду.
Да старой ігрушы
Моўчкі прыхінуся,
Жаўранка пачую,
Дзятлу адгукнуся,
Удыхну прывольна
Ветру лугавога.

І з душы павольна
Адплыве трывога.
І мой лоб гарачы
Пацалуе лісце,
І адчую:
Сілай
Рукі наліліся.
І растане ў небе
Хмарка дажджавая...

Хто сказаў,
Што ў свеце
Шчасця не бывае?..



У жыцці ў мяне было ўсяго,
Што ў анкету аніяк не лезе:
Самагонку піў,
Лавіў сігоў,
На чаборы спаў у цёплым лесе,
Яблыні чужыя латашыў
І хлусам бязбожным доўга верыў,
Вёў застоллі,
За мяжой тужыў,
Быў не надта ўдалым кавалерам.

А калі было зусім няўцерп
І адчай сціскаў пятлёю горла,
З неба браў маладзіковы серп
І зжынаў бяды палын прагорклы.

А ў блакіце жаўранак звінеў
І свяціўся васілёк у леце...

Так што вы мяркуйце пра мяне
Не па тым,
Што пішуць у анкеце.



Здаецца,
Мы ўчора былі дзецюкі,
А сёння —
Сівыя дзяды.
Слабеюць старэнькія нашы бацькі,
Збіваюцца з цвёрдай хады.

Яны наглыталіся гора спаўна,
Не чуюць ні ног і ні рук.
Улада душыла,
Ламала вайна,
Ад працы сагнуліся ў крук.

Служылі Радзіме.
Расцілі дзяцей.
Прасілі ў нябёс перадых.
Хавалі трывогу ў душы ўсё часцей,
Каб мы не адсталі ад іх.

А сцежкі ўжо ў вечар вядуць напрасткі
Праз ліўні,
Завеі,
Грамы...
Старэюць бязлітасна нашы бацькі.
А, значыць, старэем і мы...



У змроку лясной хацінкі
Слухаю цішыню.
Па провадзе павуцінкі
Зорцы начной званю.

Ёй расказаць хачу я
Сумныя думкі свае.
А зорка мяне не чуе —
Далёка так да яе.

З ёй побач месяц двухрогі
І Млечнага Шляху сувой.
Мае зямныя трывогі
Зусім нецікавыя ёй...

Я ўжо і сам не рады
Дурному парыву свайму.
Як-небудзь
Без зорнай парады
З душы сваёй смутак здыму.

Ды выблісну ла з-за гаю
І ў цёмным паўночным вакне
Па-змоўніцку зорка міргае —
Усё ж адгукнулася мне...



Віна жыцця ўсё не магу напіцца..
Не прапусціў ніводнага кілішка,
А ўсё яшчэ не адчуваю лішка
І не магу здаволена спыніцца.

Хоць мне ўступаюць месца,
Як старому,
І падарункі шлюць да юбілею,
Я ад кахання новага хмялею
І новай працай адганяю стому.

Застоллі мне прыесца не паспелі
І не апрык кастроў бяседных дым...
Быць можа,
Будзе горкае пахмелле.
Але хіба я думаю аб тым?..



Мы ўсе —
Смяротныя.
Такі зямны закон.
Жыццё
Аднойчы ўсім падводзіць рысу.
І кожны знойдзе вечны свой спакой,
Хто —
Пад сасною,
Хто —
Ля кіпарысу.

Адным
Грудок завея замяце.
Другіх —
Акрые ціхімі лістамі.
Мы спынімся навек на той вярсце,
Якую доўга выбіралі самі.

Няхай яна далей вядзе сыноў
Сярод лугоў
Ці каля горных кручаў.
Мы ж зрэдку аб сабе напомнім зноў
Сляпым дажджом
Ці зоркаю падучай.

Пра родны край нам будуць сніцца сны,
Сівых бароў або хрыбтоў абрысы.

Каму —
Каля пахіленай сасны,
Каму —
Пад танкаствольным кіпарысам.



У небе высокім
Бялюткай аўчынкай
Ледзь бачная вокам
Плыве аблачынка.

Плыве над абшарам
Па роўнядзі гладкай
Дзіцячаю марай,
Старэчаю згадкай.

Плыве самапасам
Над лугам і плёсам,
Над спыненым часам,
Над споўненым лёсам...

Як памяць сівая,
Што хоча спачынку,
Знікае,
Сплывае
Мая аблачынка...



Я жыву сёння,
Таму што было ўчора:
За лес садзілася сонца,
Шамацеў пад нагамі бур'ян,
Трактар пагрукваў за вёскай,
І над раллёю чорнай
Кужалем нерасчасаным
Слаўся сівы туман.

Ссутулены бацька
Сіратліва стаяў ля ганку,
Чакаў,
Калі я з узгорка
На развітанне махну рукой,
Бусел доўга кружыўся,
Перш чым сесці ў буслянку,
Адзінокая кнігаўка ўскрыквала над ракой...

Я жыву сёння,
Таму што будзе заўтра:
Сонца ўсплыве над лесам,
Успырхне ў неба жаўрук,
Заспяшаюцца на працу
Шафёры і касманаўты,
Спазняючыся ў школу,
Шчаку маю цмокне ўнук.

Праімчыцца пусты грузавік
Па бальшаку астылым.
Стрыножаны конь
Падковы
Абмые ў чыстай расе,
Журавель над студняю рыпне,
І бусел белыя крылы,
Як анёл,
Над бацькоўскай пахілаю хатай
Урачыста ўзнясе...

Я жыву...



Душу маю сумленне дагрызае —
Не здолеў,
Не дамогся,
Упусціў...
Глядзіць мне ўслед дзяцінства
Абразамі
З пасляваенных выстылых хацін.

Ах, як тады мы верылі наіўна,
Што ўсіх чакае блізкі рай зямны
І нас не спыняць
Ні грамы,
Ні ліўні,
І будзе свет без здрады і маны!

Пасля ў жыцці нам усяго хапіла —
Урокаў горкіх,
Перамог цяжкіх.
І летуценні асядалі пылам,
І азарэнні лёс мянялі ўміг.

Усё было.
Ды толькі шкадаванне
Не пакідае смутную душу —
Палі хмызамі зараслі дазвання,
Адшапацеў гаёў вясновы шум.

Юначых мар зламаную націнку
Панеслі ўдаль халодныя вятры.
А ўслед мне ўсё ўзіраецца дзяцінства
З пасляваеннай памятнай пары...



Для мяне ўсё зачынена
На зямлі і ўгары,
Калі з мілай Айчынаю
Я хачу гаварыць.

Хай Еўропа і Азія
Пастаяць за бугром,
Калі словы падказвае
Мне раскацісты гром.

Мецэнаты з гешэфтамі
Збоку сцішацца хай,
Калі песні нашэптвае
Мне бярозавы гай.

І гасконцы з этрускамі
Хай глядзяць у нудзе,
Як душа беларуская
З небам раду вядзе.



Калі хто спытае,
Чым я ганаруся —
Адкажу:
Заўсёды
Роднай Беларуссю.

Русаю касою,
Годнаю паставай,
Яе ціхай песняй,
Яе даўняй славай.

Калі хто спытае,
А чаго ж баюся —
Адкажу:
Няволі
Роднай Беларусі.

Каб не раскрышылі
На дарогах ратных,
Каб не задушылі
У абдымках братніх.

Калі хто спытае,
За каго малюся —
Адкажу:
За люд свой
З роднай Беларусі.

За яго наіўнасць,
Да спакус пагарду,
За яго цярплівасць
І яго спагаду.

Калі хто спытае,
Дзе навек спынюся —
Адкажу:
На сцежках
Роднай Беларусі.

Там,
Дзе вечна свеціць
Сонца над лясамі,
Дзе буслы лунаюць
Па-над каласамі...

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бураўкін** Генадзь Мікалаевіч

**Лісты да запатрабавання**

*Вершы і паэмы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Андрэева*
Камп'ютарны набор і вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 6 .04.2010.
Фармат 75x90 $^{1}/_{32}$
Друк афсетны. Папера афсетная.
Гарнітура Newton.
Ум. друк. арк. 13,13. Ул.-выд. арк. 9,11.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. 155.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**

Паліграфічнае выкананне
СТАА «Медысонт».
Ліцэнзія ЛП 02330/0150444 ад 19.12.08.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.